● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

27 лютага 1996 г. аўторак, №№ 55-56 (22858-22859)





# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 84*

**Аб устанаўленні свята — Дня геолага**

Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь свята — Дзень геолага і штогод адзначаць яго ў першую нядзелю красавіка.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

21 лютага 1996 г., г.Мінск.

### ПА РЭЙКАХ ПЕХАТОЮ ПА ЗВЫЧЦЫ?

**Магчымае павышэнне кошту паслуг прыгараднага чыгуначнага транспарту, аб чым «Звязда» паведамляла ўжо, пацвердзілася. З 25 лютага цана праезду адной зоны на гэтым намрамку пасажырскіх зносінаў Беларускай чыгункі ўзнялася з 800 да 1200 рублёў.**

Па словах спецыялістаў, да павышэння кошту паслуг атрымліваемыя сродкі дазвалялі пакрываць выдаткі толькі на 35,5 працэнта (нагадаем, што за мінулы год страты ад прыгарадных перавозак склалі 368 млрд. рублёў). Мяркуецца, што пасля павышэння цэнаў даходную частку атрымаецца павялічыць да 53,2 працэнта. Наогул жа галоўнай сваёй задачай чыгуначнікі лічаць прывядзенне суадносінаў выдаткаў і даходаў як мінімум адзін да аднаго. Першапачаткова планавалася, што кошт праезду адной зоны будзе ўзняты да 1.500 рублёў, але потым было вырашана спыніцца на лічбе 1.200 рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ФАТОГРАФЫ СУПРАЦЬ ЧАРНОБЫЛЯ*

## ГРУПА РЫЗЫКІ




**Некалькі гадоў назад у нашай дзяржаве з'явілася асаблівая катэгорыя людзей. У адпаведнасці з загадамі № 25 і № 104 Міністэрства аховы здароўя РБ афіцыйны статус набылі сталыя жыхары радыяцыйных тэрыторый. Цяпер яны складаюць групы рызыкі і знаходзяцца пад пільным вокам (кантролем ці наглядам) медыкаў.**

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

*ДА ВІЗІТУ А. ЛУКАШЭНКІ Ў МАСКВУ*

### ПЕРШЫ АФІЦЫЙНЫ ВІЗІТ АБЯЦАЕ БЫЦЬ НАСЫЧАНЫМ

**Першы афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Расійскую Федэрацыю, які пачнецца 27 лютага, абяцае быць не толькі ўрачыстым, але і вельмі насычаным. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, ён пачнецца з сустрэчы з Прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным.**

Перагаворы кіраўнікоў дзяржавы адбудуцца ў Георгіеўскай зале Вялікага Крамлёўскага палаца. Плануецца падпісанне цэлага пакета беларуска-расійскіх дакументаў.

У першы ж дзень свайго знаходжання ў Маскве Прэзідэнт Беларусі сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Расіі Віктарам Чарнамырдзіным, старшынёй Савета Федэрацыі Ягорам Строевым, старшынямі камітэтаў і членамі Савета Федэрацыі, а таксама са Старшынёй Дзяржаўнай думы Генадзем Селязнёвым. Аляксандр Лукашэнка мае намер у гэты ж дзень наведаць Маскоўскі дзяржаўны універсітэт, дзе сустрэнецца са студэнтамі і выкладчыкамі ВНУ, а таксама ўскладзе вянок да магілы Невядомага салдата ў Аляксандраўскім садзе.

Раніцай 28 лютага запланаваны паездка Аляксандра Лукашэнкі ў Красмагорск і наведванне Красмагорскага завода імя С.Зверава.

Адным з важных момантаў візіту ў Маскву будзе наведванне Прэзідэнтам пасольства Рэспублікі Беларусь у Маскве. Плануецца, што ў дыпламатычным прадстаўніцтве нашай рэспублікі Аляксандр Лукашэнка сустрэнецца з беларускім зямляцтвам, агледзіць выстаўку беларускіх тавараў, а таксама адкажа на пытанні беларускіх, расійскіх і зарубежных журналістаў.

**БЕЛТА.**

*«МІНСКАЯ ЛЫЖНЯ-96»*

## ПАДАРЫЛІ САБЕ СВЯТА ЗДАРОЎЯ І БАДЗЁРАСЦІ



Здароўем даражыць умейце, з гадамі — даражыць удвайне... Гэтыя крыху перафразіраваныя словы паэта вельмі адпавядалі дэвізу мінчан і гасцей сталіцы, якія пабывалі ў мінулую суботу на «Мінскай лыжні-96». Яна пачыналася ля вёскі Баравая і заканчвалася на снежным стадыёне славутага спарткомплексу «Раўбічы».

Нават капрызнае лютаўскае надвор'е з парывістым ветрам і замеццю не стала перашкодай для аматараў здаровага і карыснага вольнага адпачынку. З самай раніцы да месца старту на лыжах, пяшком і на аўтобусах пацягнуліся стары і малы. Арганізатары свята — Міністэрства спорту і турызму, гарадскі спарткамітэт, а таксама Міністэрства культуры пастараліся зрабіць усё магчымае, каб яно атрымалася радасным і цікавым.

На 15-кіламетровай дыстанцыі дзейнічалі пункты пракату спартыўнага інвентару, іграла музыка, прама ля лыжні можна было выпіць гарачага пахучага чаю або кавы, прычым бясплатна. У саміх жа Раўбічах панавала сапраўдная весялосць. У незвычайна прыгожы, вясёлы карагод заклікалі скамарохі, казачныя героі забаўлялі малышоў, калектывы мастацкай самадзейнасці выконвалі іскраметныя беларускія танцы, а гандлёвыя рады ламаліся ад усялякіх пачастункаў, розных сувеніраў і тавараў народных промыслаў.

А тым часам да фінішу набліжалася першая група гоншчыкаў. Сярод іх былі і нядаўнія нашы героі, якія бліскуча выступілі на апошнім чэмпіянаце свету па біятлону. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, прымаючы іх пасля вяртання з Германіі, паабяцаў, што абавязкова пабывае ў Раўбічах, дзе ў асноўным трэніруюцца беларускія страляючыя лыжнікі. І кіраўнік дзяржавы стрымаў свае слова. Зрэшты, не толькі наведаў спарткомплекс, але, як і дзесяткі тысяч аматараў спорту, прайшоў па дыстанцыі і, пад апладысменты прысутных, дастойна фінішаваў.

Потым была цырымонія ўзнагароджання тых, хто вызначыўся. 20 жанчынам і 40 мужчынам уручаны лыжы фабрыкі «Целяханы».

Час пераваліў за паўдня, а на свяце здароўя і бадзёрасці яшчэ спявалі і танцавалі. І доўга яго ўдзельнікаў не пакідаў цудоўны настрой.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

### СТАРШЫНІ КАЛГАСА «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» КАМЯНЕЦКАГА РАЁНА УЛАДЗІМІРУ БЯДУЛЮ

*ПАВАЖАНЫ УЛАДЗІМІР ЛЯВОНЦЬЕВІЧ!*

*Прыміце сардэчныя віншаванні з выпадку знамянальнай падзеі ў Вашым жыцці — 40-годдзя работы ў якасці старшыні калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна.*

*Гэты сапраўды працоўны подзвіг стаў магчымы дзякуючы Вашым высокім маральным якасцям, рэдкаму арганізатарскаму таленту і глыбокаму прафесіяналізму.*

*У нашай рэспубліцы і за яе межамі добра ведаюць Вас, Уладзімір Лявонцьевіч, як буйнога і ўмелага кіраўніка сельскагаспадарчай вытворчасці, актыўнага прапагандыста ўсяго новага і перадавога ў гэтай галіне.*

*Вы належыце да пакалення людзей, чыё дзяцінства і юнацтва выпалі на цяжкія трыццатыя гады і суровыя гады вайны, на пасляваеннае ліхалецце. Чалавек ад зямлі — Вы ўсё сваё свядомае жыццё прысвяцілі нялёгкай сялянскай працы. Няпростыя клопаты хлебароба былі Вашай школай і Вашымі універсітэтамі. Дзякуючы сваім прыроднай кемлівасці, дапытліваму розуму, шыраце кругагляду, адданасці сельскаму рамяству, клапатлівым адносінам да людзей Вы здабылі заслужаны аўтарытэт, павагу і ўдзячнасць.*

*Ваша грамадзянская адказнасць, настойлівасць у дасягненні мэтаў, здольнасць аб'ядноўваць намаганні калектыву на вырашэнне пастаўленых задач, набыты жыццёвы і вытворчы вопыт прадвызначаюць поспех справы. І ў складаных цяперашніх умовах Ваш калектыў працуе ўпэўнена, стабільна, забяспечвае высокі ўзровень вытворчасці.*

*Вы па праву належыце да лепшых і славутых хлебаробаў, залатога фонду зямлі беларускай, які забяспечыў заслужаную славу нашай сельскай гаспадарцы. Вашы землякі неаднаразова давяралі Вам прадстаўляць свае інтарэсы ў мясцовых і вышэйшых выбарных органах улады. Двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, кавалер ордэнаў Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, «Знак Пашаны», заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь — так па заслугах ацэнена Ваша праца Радзімай.*

*У сувязі з выдатным юбілеем у Вашым жыцці, выказваючы самыя добрыя пачуцці, жадаю Вам, Уладзімір Лявонцьевіч, моцнага здароўя, шчасця, плённай дзейнасці на карысць нашай Айчыны!*

**А. ЛУКАШЭНКА,**
**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.**

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА:**

### «НА ЦЯПЕРАШНІМ ЭТАПЕ ДЗЯРЖАВЕ НЕ АБЫСЦІСЯ БЕЗ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА, ЯК І ПРАДПРЫМАЛЬНІКАМ БЕЗ ДЗЯРЖАВЫ»

Спалучэнне інтарэсаў дзяржавы і бізнесу абвясціла новая генерацыя дзелавых людзей Беларусі -- Нацыянальная асацыяцыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, устаноўчая канферэнцыя якой прайшла 26 лютага.

Вітаючы новае грамадскае аб'яднанне на ўстаноўчай канферэнцыі, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што «гатоў да доўгатэрміновага супрацоўніцтва з прадпрымальніцкімі коламі толькі на дзелавой і канструктыўнай аснове». Ён выказаў надзею на ўзаемаразуменне і супрацоўніцтва дзяржавы і прадпрымальнікаў, удакладніў, што падтрымка дзяржавы будзе накіравана, перш за ўсё, на ажыўленне вытворчай сферы. Прэзідэнт заявіў, што на цяперашнім этапе дзяржаве не абысціся без прадпрымальніцтва, як і прадпрымальнікам без дзяржавы. Але на падтрымку можа разлічваць толькі беларускі бізнес, заснаваны на праектах, якія прыносяць карысць народу.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

### КАБ РАССТАВІЦЬ КРОПКІ НАД «І»

**Учора адбылася сустрэча Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра з прадстаўнікамі працоўных калектываў і аб'яднанняў прафсаюзаў прамысловых прадпрыемстваў Мінска. На жаль, час сустрэчы не дазваляў паведаміць аб яе выніках ў сённяшнім нумары, таму падрабязную справаздачу мы прапануем чытачам у наступным.**

Напярэдадні ж сустрэчы наш карэспандэнт звязаўся з намеснікам старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Францам Вітко і задаў яму некалькі пытанняў. Паводле слоў сп. Вітко, асноўнай тэмай размовы павінна была стаць агульная сітуацыя ў эканоміцы Беларусі і, у прыватнасці, у прамысловасці. Аднак намеснік старшыні ФПБ не лічыць, што асноўнай падставай для сустрэчы стала прызначаная на 28 лютага акцыя пратэсту прафсаюзаў, хаця і не выключыў, што аб гэтым можа зайсці гаворка. «Сёння праблемы нават з'явіліся ў тых прадпрыемстваў, якія некалі былі элітай айчыннай прамысловасці. А гэта сведчыць, што эканоміка ў сур'ёзным крызісе», — сказаў сп. Вітко. Ён адзначыў, што, калі ў прафсаюзаў аўтасельгасмаша і радыёэлектроннай прамысловасці ёсць важкія падставы, то яны, безумоўна, маюць права выйсці на мітынг, але зрабіць гэта трэба на законнай падставе, ды і не забываць, што потым усё роўна прыйдзецца садзіцца за стол перагавораў.

Дарэчы, як паведаміў Франц Вітко, урад выконвае апошнім часам амаль усе патрабаванні прафсаюзаў. У якасці прыкладаў ён прывёў пралангацыю пастановы Кабінета Міністраў № 435 аб размеркаванні выручкі, указ аб адмене вылічэння пені. Акрамя таго разглядаецца праект указа аб адтэрміноўцы плацяжоў у бюджэт, а з 24 лютага пачаўся першы этап узаемазаліку запазычанасцей паміж прадпрыемствамі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***Працягваецца падпіска на «Звязду» на другі квартал 1996 года. Цана на квартал — 40.800 рублёў, на адзін месяц — 13.600 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі — 45.000 на квартал.***

БЯДА



# ГРУПА РЫЗЫКІ








(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Нядаўна з чарговай экспедыцыі абследавання групы рызыкі вярнуліся медыкі Рэспубліканскага дыспансера радыяцыйнай медыцыны. Яны правялі агляд 750 дзяцей у пасёлку Камарын і навакольных вёсках (30 км ад Чарнобыльскай АЭС).

І на гэты раз суцяшальных фактаў не выяўлена. Усе гэтыя дзеці маюць адхіленні ў шчытападобнай залозе. А ў трох школьнікаў выяўлены вузлавыя новаўтварэнні — прызнакі анкалогіі.

Некалькі дзён, праведзеных разам з медыкамі ў камарынскай групе рызыкі, паказалі, што дзеці, а часам і дарослыя, не разумеюць усёй трагічнасці свайго становішча. І да падобных «эксперыментаў» (як называюць тут медагляд) адносяцца несур'ёзна. Рэкамендацыі медыцыны ігнаруюцца, бо тое, што архіважна дзецям для ўмацавання здароўя, у Камарыне ды бліжэйшым Брагіне не знойдзеш. Медыкі разумеюць сітуацыю, але яны не павінны лячыць эканоміку.

Чарговая экспедыцыя ў Брагін папоўнілася яшчэ адным спецыялістам—гематолагам. Ёсць трывожныя факты, якія ў папярэднія гады не назіраліся. У крыві дзяцей адбываюцца змяненні. Пакуль гэта адзінкавыя выпадкі. Можа гэта выпадковасць? Адкажа час.

**Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.**

## НОВАЯ ТЭХНАЛОГІЯ ЗДАРОЎЯ

**Сёння мы публікуем інфармацыю пра цуда-ўкладышы для ног, якія «ўсё лечаць» і ацэньваюцца спецыялістамі як сенсацыйны прарыў у біяэнергетыцы — танны і эфектыўны**

Біяэнергатэрмічныя ўкладышы для ног PIOKAL уяўляюць сабой кавалачак мяккага, эластычнага матэрыялу спецыяльнай формы і якасці, які закладваецца ў абутак ці паміж шкарпэткамі на ноч (па жаданню, зручнасці і лячэбнаму прызначэнню) як дзецьмі, так і дарослымі, як вельмі хворымі, так і «ўмоўна» здаровымі. Існуе шмат разнастайных укладышаў, пракладак, вусцілак для ног, але ўкладышы PIOKAL — непаўторныя, адзіныя ў сваім родзе і не маюць аналага. Іх прыдумаў і вырабляе адзіны чалавек у свеце, які дапамог пазбавіцца ад хвароб мільёнам людзей, — Казімеж Піатровіч. Прадстаўніком PIOKAL у Беларусі з'яўляецца аздараўленчы навукова-практычны цэнтр «Агнія».

Праз 1—10 хвілін прыкладання PIOKAL у ступнях адчуваецца прыемнае цяпло — гэта эфект экраніруючага ўздзеяння. Наша цяпло не рассейваецца, а адбіваецца і ўспрымаецца рэцэптарамі ступняў назад. З гэтай хвіліны пачынаецца ваша лячэнне, дыягностыка і рэабілітацыя — вяртанне да здароўя! У каго што баліць, той тое і адбівае, тое і лечыць. У аднаго — праблемы з сэрцам, у другога — са страўнікам, у трэцяга — з кроўю, сном, галавой, нагамі, астма, цукровы дыябет, шчытападобная залоза, ціск, суставы, болі, у тым ліку і болі душы, гінекалогія і г. д. — у кожнага лячэнне ідзе індывідуальна, непаўторна, згодна з толькі яму ўласцівым станам арганізма, незалежна, ці то гэта аднагадовае дзіця, ці то ўзрост 90 гадоў. Пачынаюць актывізавацца працэсы ўсіх узроўняў самарэгуляцыі арганізма: клетачнага, малекулярнага, хімічнага, энергетычнага. Ствараюцца ўмовы для эфектыўнага сінтэзу АТФ — акумулятара біялагічнай энергіі. Многія гавораць, што калі надзяваюць укладышы PIOKAL, у іх узнікае пачуццё, што з імі нічога дрэннага не можа здарыцца, яны адчуваюць абароненасць, што само па сабе з'яўляецца важным лячэбным фактарам. Нагам цёпла, адтае душа, супакойваецца нервовая сістэма, вяртаюцца сілы, а ў многіх — страчанае здароўе і надзея.

Укладышамі PIOKAL лечацца і дыягнастуюць здароўе. Праз 10—20 хвілін тэст па прыкладзенай табліцы пакажа, якія ў вас праблемы ў арганізме. Пакажа нават тое, чаго не паказвае самая сучасная дыягнастычная апаратура і, убачыўшы сябе як у люстэрку, арганізм сам сабе прапіша лячэнне намнога больш мудрае, больш індывідуальнае, чым усе нашы суб'ектыўныя, сярэднестатыстычныя і сярэднеарыфметычныя метады і падыходы да яго.

Вось чаму так шмат добрых водгукаў аб біяэнергатэрмічных укладышах PIOKAL. Гэта самастойны сродак лячэння, сумяшчальны з прыёмам лекаў, неабходнасць у якіх рэзка змяншаецца. Спектр дапамогі вельмі шырокі. Бачачы чалавека, які часта хварэе, пакутуе, нават безнадзейна хворага, — падкажыце яму новы метад лячэння, можа быць, ён акажацца апошнім шанцам у яго безнадзейным стане. Асабліва даводзім да ведама бацькоў і ўрачоў, што дзяцей з захворваннямі нырак, страўніка, мочапалавой сістэмы, эндакрыннымі праблемамі, заіканнямі, запаволеным развіццём, начным энурэзам, нестабільнай нервовай сістэмай, эпілепсіяй — не залечвайце, абавязкова накіроўвайце ў цэнтр «Агнія» па ўкладышы PIOKAL і самі можаце прыняць удзел у назіраннях за імі, пазваніць да нас у выпадку пытанняў, якія ў вас узнікнуць. Высокая эфектыўнасць пры штодзённым нашэнні вусцілак адзначаецца на працягу 3-4 месяцаў. Потым, калі ёсць неабходнасць, лячэнне працягваюць новымі вусцілкамі, абыходзяцца з імі беражліва, а старыя перакладаюць у абутак і даношваюць, таму што ўкладышы фізічна зношваюцца.

Дасягненні чалавечай думкі не стаяць на месцы, і біяэнергатэрмічная лячэбная дыягнастычная і рэабілітацыйная тэхналогія PIOKAL простая, як усё геніяльнае, дае магчымасць вырашыць у арганізме і вялікія, і маленькія праблемы з цудамі і без цудаў.

Увага! Укладышы PIOKAL неабходна набываць толькі ў аздараўленчым дылер-цэнтры «Агнія» (Мінск-12, Сурганава, 2, пакой 3а, тэл. 32-44-02, 65-09-06) і магазінах «Оптыка» г. Мінска. Яны не прадаюцца на базарах, у кіёсках, з рук, каля прахадных прадпрыемстваў, патрабуюць граматнага выкарыстання. У цэнтры хворыя кансультуюцца ўрачамі, інвалідам і дзецям робіцца 30-працэнтная скідка. Іншагароднім магчыма перасылка, для чага на цэнтр неабходна прыслаць пісьмо з указаннем захворванняў. Мы вышлем умовы перасылкі.

**Е. САРКІСАВА.**

*ПОГЛЯД*

## ЗМЯНІЎ ШЫНЕЛЬ НА РОБУ ВАЕННЫ ГАРАДОК...

Спачатку факт, пра які не ўсе ведаюць: швейцарскі вучоны Жан-Жак Бабель з дапамогай ЭВМ падлічыў, што за апошнія 6 тысяч гадоў людзі перажылі 14.513 войнаў, у якіх загінула 3640 мільёнаў чалавек. Ужо пасля таго падліку, бадай, дзве-тры іх, сённяшніх, прагрымелі толькі на тэрыторыі былога Саюза. Адчайныя беларусы адным махам захацелі пазбавіць сябе і, пэўна, чалавецтва ад такой навалы, скасаваўшы ваенныя гарадкі. На адной Віцебшчыне такім чынам вывелі ў Расію воінскія часці з дзевяці гарадкоў. Можна па-рознаму ставіцца да вывезенай маёмасці, але яе ўжо няма, і таму гаворка запозненая. А вось лёс людзей працаздольнага ўзросту (15 тысяч чалавек) не можа не хваляваць. Між тым, занятак для гэтых людзей даецца ледзь не з боем, і страты нясём чалавечыя — у настроі, лёсе сем'яў. што там засталіся.

Нямала камісій перабывала ў колішніх ваякаў, існуе нават спецыяльная праграма развіцця пасёлкаў-спадарожнікаў былых ваенных аб'ектаў. Многае ўдалося зрабіць: за 1993—95 гады працаўладкавана 10 тысяч былых афіцэраў і членаў іх сем'яў. На нядаўнім пасяджэнні аблвыканкома прагучалі лічбы: у Бароўцы і Паставах створана па 73 новыя рабочыя месцы, у Ветрыне — 55. Будуецца Бароўскі санаторый-прафілакторый для аздараўлення і лячэння дзяцей з чарнобыльскай зоны, а гэта таксама будучыя рабочыя месцы. Служба занятасці плануе выдзеліць у гэтым годзе 1,5 мільярда рублёў на змякчэнне сітуацыі. Аднак гэта дае магчымасць задаволіць толькі на 10 працэнтаў патрэбы, закладзеныя ў абласной праграме.

Каб не збіцца на эмоцыі, якія так і просяцца ў радок, лепш звярнуцца да сацыялагічных даследаванняў, якія правяло ўпраўленне па працы і занятасці аблвыканкома.

— Увесь цяжар праблем былых ваенных гарадкоў узялі на сябе райвыканкомы, — каменціруе матэрыялы даследаванняў кандыдат сацыялагічных навук Мікалай Глушонак. — Аднак «гераізму» мясцовых уладаў недастаткова. Іх магчымасці абмежаваныя. Нават там, дзе быў нейкі занятак, нярэдка і той прападае, вытворчасць згортваецца. Сёння 3,5 тысячы людзей маюць патрэбу ў працаўладкаванні. Прычым у большасці гэта людзі актыўнага працаздольнага ўзросту, 62 працэнты з іх — 26—45 гадоў. Маючы вышэйшую або сярэднюю спецыяльную адукацыю, яны, як правіла, згодны на любы занятак. Былыя афіцэры працуюць цеслярамі, сантэхнікамі, прадаюць газеты.

Аднак вось якая дэталь. Дзве трэці апытаных жадаюць працаваць на дзяржаўных прадпрыемствах, 12 працэнтаў згадзіліся б на прыватныя і толькі 7,6 працэнта гатовы заняцца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю. Астатнія не гатовы псіхалагічна.

Кожны былы ваенны аб'ект займеў новага гаспадара. Аднак практычнай аддачы амаль няма. Калгас «Дубраўка» Аршанскага раёна знайшоў прымяненне былым складам, можна прывесці і яшчэ два-тры станоўчыя прыклады. Большасць жа арганізацый не наладзіла эксплуатацыю аб'ектаў, а значыць, пакінула без надзеі людзей. Так, не выкарыстоўваюцца склады ў Віцебску, перададзеныя філіялу «Белтары», дэманціравана пад носам у Пастаўскага РУСа абсталяванне станцыі касмічнай сувязі, знята частка пад'язнога чыгуначнага пуці да Баравухі-1. Не заняліся як след набыткам пастаўскі і талачынскі райспажыўсаюзы, ВА «Нафтан», упраўленне ўнутраных спраў аблвыканкома, калгас «Наперад» Браслаўскага раёна, абласное таварыства інвалідаў і многія іншыя. Віцебскі аблвыканком вымушаны быў прыняць наконт гэтых арганізацый пагрозлівае рашэнне, аднак матэрыяльна падмацаваць яго не змог з-за абмежаванасці бюджэту.

Летась выдаткавана 18 мільярдаў рублёў на ўтрыманне былых ваенных гарадкоў, яшчэ 10 мільярдаў — на іх інжынернае абсталяванне, 4 мільярды — на капітальны рамонт жылля. Ці трэба казаць, што гэта — кот наплакаў. А сёлета пакуль што далей размоў наогул справа не пайшла. Тым часам востра стаяць пытанні падтрымання ў рабочым стане комплексу камунальных паслуг, утрымання дзіцячых садкоў, устаноў культуры, грамадскага харчавання. У адным з пасёлкаў каля Пастаў з цяжкасцю ўдаецца падтрымліваць 8—12 градусаў цяпла ў школе і кватэрах.

Аддзел сацыялагічных даследаванняў тым часам канстатуе: парушэнне звыклага раскладу жыцця, беспрацоўе, адсутнасць перспектывы вядуць да маральнай дэградацыі былых нашых абаронцаў. Яна суправаджаецца маральнай спустошанасцю людзей, абыякавасцю да ўсяго, п'янствам, пагаршэннем крымінагеннай сітуацыі як у гарадках-спадарожніках, так і раёнах, дзе яны размешчаны. Зняўшы шынялі, некаторыя з былых ваеннаслужачых падаліся на сваю этнічную радзіму ў пошуках долі. Гэта не так проста: патрэбна аднаўленне ў грамадзянстве, месца працы, жыллё. Сем'і засталіся чакаць сваіх карміцеляў, і не ўсе дачакаліся. Частка сем'яў распалася, у Паставах, напрыклад, 14 працэнтаў афіцэрскіх сем'яў — няпоўныя. 41 працэнт бязмужніх жанчын не мае пастаяннага занятку. У паловы з іх — непаўналетнія дзеці. Асірацелыя і пазбаўленыя нярэдка многага, нават ежы. Без вайны...

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**
г. Віцебск.

*СТРАСЦІ ПА «ФОРДУ»*

# РОЗУМ І ДЗЯРЖАЎНЫЯ ІНТАРЭСЫ ПАВІННЫ ПЕРАМАГЧЫ



**Ці стартуе буйнейшы інвестыцыйны праект Беларусі — сумесная з амерыканцамі вытворчасць аўтамабіляў «Форд» у пасёлку Апчак паблізу Мінска?**

У публічнай палеміцы па гэтым пытанні ўжо выказаліся кіраўнікі Мінскага трактарнага завода (цяперашні карыстальнік пляцоўкі ў Апчаку), дэпутаты парламента, прадстаўнікі многіх міністэрстваў і ведамстваў, пільная грамадскасць. Адначасова з сур'ёзнымі аргументамі, на жаль, нямала фантазій, дэмагогіі, а то і няпраўды.

Каб разабрацца ў сітуацыі, трэба спачатку іх аддзяліць, а затым сур'ёзна ўзважыць аргументы. Зрабіць гэта зручней у выглядзе адказаў на пытанні або сцвярджэнні, якія прагучалі ў ходзе дыскусіі.

*Сцвярджаецца, што пляцоўка ў Апчаку, што перадаецца «Форду», жыццёва важная для МТЗ, без яе завод будзе пазбаўлены выпрабавальнай базы, не зможа асвойваць новыя мадэлі трактароў і страціць пазіцыі на рынку.*

Гэта не так. Дзеючыя на сённяшні дзень збудаванні выпрабавальнай станцыі МТЗ праектам «Форд» **наогул не закранаюцца.** Размова ідзе аб перадачы дапаможнага механічнага цэха, які галоўным чынам прастойвае і напалову заняты складам металу, а таксама аб недабудаваным корпусе.

Будоўля, якой 10 гадоў, безнадзейна спынілася на паўшляху. Грошай на яе працяг **усё роўна няма і не будзе.** Ніякага завяршэння будаўніцтва ў гэтым або наступным годзе **не плануецца**. Нельга пазбавіць МТЗ таго, чаго ў яго няма.

Такім чынам, выбар робіцца не паміж выпрабавальнай станцыяй МТЗ і заводам «Форд», а паміж даўгабудам і магутнай сучаснай вытворчасцю.

Ранейшыя спробы кіраўніцтва МТЗ збыць гэтую ж пляцоўку па сходнай цане іншым замежным фірмам гавораць аб сапраўдным, але скрываемым інтарэсе: не аддадзім дзяржаве «за так» таго, што самі можам прадаць або здаць у арэнду.

Гэта не дыскусія аб стратэгіі развіцця прадпрыемства (яна вядзецца інакш), гэта банальны гандаль.

*А чаму, на самай справе, МТЗ павінен аддаваць сваё? Чаму ў звароце працоўнага калектыву гаворыцца аб «экспрапрыяцыі»? Можа, пляцоўку ў Апчаку проста выкупіць?*

МТЗ быў і застаецца ў поўнай дзяржаўнай уласнасці. Зямля таксама належыць дзяржаве. Уласнік — дзяржава можа па закону прымаць любыя рашэнні аб найбольш рацыянальным выкарыстанні вытворчых рэсурсаў.

Пляцоўка ў Апчаку не дорыцца «Форду», а перадаецца ў статутны фонд СП як узнос дзяржавы Беларусь, які забяспечвае захаванне дзяржаўнай долі ў гэтым стратэгічна важным праекце. «Форд» сваю долю ў СП і так аплачвае спаўна.

Дзяржава не павінна выкупляць сваю ж уласнасць у МТЗ. Дарэчы, яна адначасова забяспечвае МТЗ кампенсацыю і плануе ажыццявіць комплексную інвестыцыйную праграму па адраджэнню трактарабудавання. Для гэтага, дарэчы, будуць прыцягвацца замежныя інвестары. Убачыўшы, як у Беларусі абышліся з «Фордам», наўрад ці яны стануць спяшацца з укладаннем капіталу.

*Кажуць, што «на першым часе на тэрыторыі рэспублікі будуць праводзіцца толькі самыя экалагічна небяспечныя аперацыі — зварка і афарбоўка кузавоў».*

Абсалютна няправільнае сцвярджэнне. Зварка і афарбоўка кузавоў праходзіць на ўсіх асноўных аўтамабільных заводах свету, уключаючы тэрыторыю ЗША, дзе экалагічныя стандарты, у адрозненне ад нас, гранічна жорсткія.

Паглядзіце адзін рэальны завод, і пытанні адпадуць.

На першым этапе ў рэспубліцы будзе праводзіцца толькі зборка аўтамабіляў «Форд-Эскорт» і «Форд-Транзіт». Адначасова будуць ствараццa ўмовы для пераносу ў Беларусь вытворчасці ўсіх асноўных камплектуючых (уключаючы кузавы), што дасць тэхналогіі, заказы і рабочыя месцы сотням прадпрыемстваў.

*Хто-ніхто сцвярджае, што выбар пляцоўкі ў Апчаку пад завод «Форд» — частка міжнароднай змовы, накіраванай на ліквідацыю МТЗ з трактарнага рынку. «Форд» сам, маўляў, мае дачыненне да трактарабудавання, хоча пазбавіць МТЗ выпрабавальнай базы, адкінуць на некалькі гадоў назад. Тым часам заходнія канкурэнты захопяць рынкі СНД.*

Цяжка сказаць, чаго тут больш — невуцтва, правінцыяльнай самаздаволенасці ці амбіцый.

Сапраўды, быў час, калі па закліку правадыроў Рэспублікі Саветаў «Форд» адпраўляў да нас тысячы трактароў. Уся айчынная сельская гаспадарка ў 20—30-я гады ўзнімалася на вядомым «Фардзоне» — мары тагачаснага савецкага селяніна.

Дарэчы, тады ў нас выдаваліся ў перакладзе кнігі Генры Форда і яго біяграфія. Заакіянскага капіталіста ставілі ў прыклад чырвоным дырэктарам, вучылі гаспадарнічаць «па Форду». Нядрэнна, трэба сказаць, вучылі. Можа, і цяпер не грэх павучыцца? У вольны ад арганізацыі забастовак час?

Аднак усё мяняецца, і «Форд» ужо многа-многа гадоў **не мае ніякіх адносінаў** да вытворчасці трактароў. Даўно сканцэнтраваўся на аўтамабілях. Шкада, што канцэпцыя «імперыялістычнай змовы» так бясслаўна рухнула. Якую прастору для нездаровай фантазіі яна адкрывала!

Трывожыць, аднак, іншае. Дакучлівая ідэя «змовы» была ў друку са спасылкай на «заводскіх спецыялістаў». Цяпер зразумела, чаму завод у такім дрэнным стане — з **такімі** «спецыялістамі»...

*Такія праекты ажыццяўляюцца ў многіх краінах. Як там вырашаюцца пытанні стварэння сумесных прадпрыемстваў, выдзялення тэрыторыі?*

Праектаў па стварэнню аўтамабільных вытворчасцей, сапраўды, многа. Умовы іх рэалізацыі залежаць ад таго, наколькі прыцягальная краіна для замежных інвестараў і ці ёсць там ужо аўтамабільныя заводы.

Так, нямецкі «Фольксваген» на 70 працэнтаў выкупіў чэшскую «Шкоду». Італьянскі «Фіят» і карэйская «Дэу» выкупілі па заводу ў Польшчы. «Джэнерал маторс» пачынае будаўніцтва на поўдні Польшчы новага завода магутнасцю 100 тыс. машын у год і коштам каля 350 млн. долараў (Беларусь можа мець такі ж значна раней!).

Інвестары смела ідуць туды, дзе дынамічная эканоміка, стабільная дзяржава, якая адказвае за свае словы.

Калі стартавалі праекты «Форда» ў Кітаі і Індыі, там абышлося без мітынгаў і пісьмаў ва ўрад, хоць вырашаліся пытанні аб перадачы пляцовак і комплексе льгот для інвестара.

Характэрны прыклад Узбекістана. Там перагаворы з карэйскай кампаніяй «Дэу» пачаліся раней, чым паміж Беларуссю і «Фордам». І вырашана ўсё было хутчэй і больш цвёрда. Зямля і камунікацыі адным актам перададзены будучаму заводу ва ўласнасць. Усе падаткі і пошліны зняты. Праз некалькі месяцаў будуць сабраны першыя аўтамабілі памерам і цаной з «Аку» і «Масквіч», але зусім іншай якасці. Працуюць жа людзі!

На сённяшні дзень Беларусь — **адзіная ў свеце** краіна, дзе першакласнага інвестара ўзроўню «Форда» сустракаюць ледзь не як акупанта. Такога не было нават пры Сталіне. Усюды без выключэння такія праекты разглядаюць як **вялікую ўдачу** і ствараюць вакол іх абстаноўку **максімальнага спрыяння**. Усюды, акрамя нас. Божа, ну чаму мы **такія**?

*Ці нельга перанесці мяркуемую вытворчасць аўтамабіляў «Форд» на іншае месца (зямлі — шмат жа) ці пакінуць у Апчаку, але пасунуць у чыстае поле?*

На жаль, нельга. Такія рашэнні прымаюцца на падставе стараннага ўсебаковага аналізу, дакладных разлікаў. Затраціўшы да паўмільёна долараў на шматмесячныя экспертныя і падрыхтоўчыя работы, «Форд» спыніўся на Апчаку, таму што там можна хутка разгарнуць вытворчасць і мець добрую перспектыву развіцця. Важна, што работа па зацверджанаму графіку дае магчымасць беларускаму «Форду» заняць лідзіруючыя пазіцыі і на рынку суседняй Расіі, атрымаць, нарэшце, адчувальныя выгоды ад мытнага саюза.

Перанос вытворчасці на новую пляцоўку азначаў бы страту сродкаў і новыя затраты, зрыў тэрмінаў, страту пераваг на расійскім рынку. Але самае галоўнае: ніхто не будзе мець справу з краінай, дзе лёс глабальных інвестыцыйных праектаў залежыць ад калектыўных пісьмаў, мітынгаў ці неўтаймоўнага адміністратара. Калі перанос і адбудзецца, то не на новую пляцоўку ў Беларусі. У іншую краіну.

*Што ж у гэтай сувязі рабіць МТЗ? Там жа таксама людзі, якія хочуць мець работу і перспектыву.*

Пакінуць у баку недарэчныя правінцыяльныя амбіцыі («плявалі мы на гэтых капіталістаў!») і смешныя спробы таргавацца («мы вам зямлю і сцены, а вы нам што?»), паглядзець у твар рэальнасці. Праект беларускага «Форда» жыццёва важны для рэспублікі, для яе эканамічнага аздараўлення і сацыяльнай стабільнасці. Ён і сам дасць многае, і **адкрые вароты** ў Беларусь для многіх сур'ёзных капіталаўкладанняў, у тым ліку ў рэканструкцыю МТЗ.

Любому граматнаму спецыялісту ясна, што ўзняць МТЗ на ўзровень сучаснай вытворчасці можна толькі ва ўзаемадзеянні з буйнымі замежнымі партнёрамі і інвестарамі. Патрэбна нацыянальная праграма па мадэрнізацыі і развіццю беларускага трактарабудавання. Ажыццявіць такую праграму можа і павінна дзяржава, якой вераць і ўласныя грамадзяне, і замежныя інвестары.

Чаму б ураду цяпер не ўзяць канкрэтныя абавязацельствы па рэалізацыі такой праграмы, уключаючы пошук стратэгічнага інвестара для МТЗ?

Замест таго, каб ва ўгоду карысным групавым інтарэсам сутыкаць лоб у лоб беларускі «Форд» з беларускім трактарам, трэба даць дарогу ў жыццё і таму, і другому. Гэта і азначае думаць **па-дзяржаўнаму.**

Такім чынам, страсці па «Форду» ў Беларусі працягваюць напаляцца. Чым больш відавочнай становіцца абсурднасць спроб спыніць праект, тым больш яго апаненты схільныя да спекуляцый і дэмагогіі, маніпулірyючы «думкай працоўнага калектыву».

Можна, вядома, працягваць і далей гэту захапляючую дыскусію (не кожны дзень выпадае такая тэма, ёсць дзе сябе паказаць!), ды вось бяда: «Форд» не будзе чакаць, пакуль мы наспрачаемся і набастуемся. Яму ж працаваць трэба.

Вырашаць такія важныя для лёсу краіны пытанні павінны не мітынгі, а эканамічны разлік і дзяржаўная воля. Першае ў нас, быццам бы, ёсць. А другое?

**Віктар КАЗЛОЎ,**
**кіраўнік аналітычнага цэнтра садзейнічання развіццю аўтамабілебудавання Рэспублікі Беларусь.**

**Ад рэдакцыі:** *Між тым кропка ў гэтым канфлікце, здаецца, пастаўлена. Прэзідэнт даў даручэнні па падрыхтоўцы адпаведных рашэнняў, якія датычаць стварэння беларускага «Форда» на прамысловай пляцоўцы ў Апчаку. Можна прыняць пад увагу аргументы кіраўніцтва Мінскага трактарнага завода, які дамагаўся захавання яе за сабой, будзем верыць у шчырае жаданне кіраўніцтва МТЗ давесці гэты даўгабуд да ладу, аднак аднаго жадання мала, а аргументы, не падмацаваныя фінансамі, таксама выглядаюць непераканаўча.*

*Варта зыходзіць з існуючых рэалій: сёння МТЗ, абцяжаранаму фінансавымі праблемамі, г. зн. праблемамі вострага недахвату сродкаў, праблемай звычайнага выжывання, наўрад ці да гэтага даўгабуду, а значыць — яшчэ не хутка ад яго тут дачакаліся б пэўнай аддачы. Хутчэй за ўсё, ён яшчэ доўгі час служыў бы прадметам галаўнога болю. І ў той жа час, пры іншым раскладзе, аддача гарантавана ўжо праз нейкі год. Улічым таксама інвестыцыйны імідж краіны, якім ужо нельга больш рызыкаваць (былі ж ужо праект тэхнапарка на базе Мінскага «Цэнтра», праект рэарганізацыі «Лідсельмаша», у якіх наважваўся прыняць удзел замежны капітал). Ці варта ў такім выпадку прыпадабняцца да сабакі на сене, зыходзіць са сваіх вузкаведамасных інтарэсаў? Увогуле, наяўнасць (або адсутнасць) грашовых сродкаў, здольнасць атрымаць ад вызначанага праекта найхутчэйшую аддачу — гэтыя аргументы больш чым пераканаўчыя. Можна меркаваць, гэта аддача, у выніку рэалізацыі фордаўскага праекта, паслужыць і на карысць таго ж МТЗ. Ды і вельмі ўжо прымільгаліся на нашай зямлі даўгабуды.*

*І яшчэ адна выснова, якая напрошваецца ў сувязі з гэтым канфліктам. Рана ці позна, да нас прыйдзе механізм банкруцтваў. Маючы на ўвазе вызначальную ролю ў нас працоўных калектываў, можна меркаваць: нялёгкім будзе гэты працэс, ва ўсякім разе — на першым часе.*

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ... ЗАНЯЦЦА ЦЫГАРЭТНЫМ БІЗНЕСАМ

**Сярод найбольш папулярных шляхоў атрымання грошай апошнім часам (калі дакладна, са з'яўленнем акцызных марак), бадай, найбольш масавым стаў продаж цыгарэт з рук.**

Памятаеце, як з вясны мінулага года не толькі ў сталіцы, але і правінцыі курцам стала «лягчэй дыхаць»: запаветны тытунь у замежных пачках з'явіўся (акрамя звыклых ужо камерцыйных кіёскаў) літаральна на кожным скрыжаванні.

Лёгкі на пад'ём у гэтых адносінах народ, які адразу ўцяміў, як можна зарабляць неблагія грошы, нічога не выплачваючы дзяржаве, хутка заняў гэтую штучна створаную нішу на рынку недзяржаўна-падпольнага гандлю.

Даходзіла нават да таго, што цыгарэтным бізнесам не грэбавалі колішнія валютчыкі, многія з якіх пакінулі, з гэтай нагоды здавалася б, прыбытковую справу з купляй-продажам іншаземных грашовых адзінак. Па іх словах, «падняцца» на цыгарэтах было значна прасцей, чым на валютных аперацыях.

Да таго ж, калі валютчыкаў хаця б час ад часу (дзеля выгляду барацьбы з гэтай з'явай) адвозілі ў міліцыю і афіцыйна давалі смехатворны штраф, дык новым відам бізнесу можна было займацца наогул нічым не рызыкуючы. Асабліва, калі паставіць гандляваць каля крамы або станцыі метро замест сябе бабулю ці дзядулю.

У пераважнай большасці выпадкаў міліцыя проста разганяла цыгарэтных «карабейнікаў», не перашкаджаючы ім праз пэўны час вяртацца на «пазіцыі» (выключэннем, хіба, было толькі месца вакол рэзідэнцыі Прэзідэнта ў Мінску).

Пацвярджэннем таму могуць стаць цыгарэтныя гандляры, якія збываюць свой тавар ледзь не на прыступках Акадэміі навук!

Дарэчы, прадаўцы гэтага «шчасця для курцоў» — таксама цікавая з'ява. Узяць тую ж канкурэнцыю. У апошні час жадаючых гандляваць «опіумам для народа» з'явілася столькі, што ім прыходзіцца дзяліць месца, г. зн. прадаваць цыгарэты па чарзе, але нібы як адна «фірма».

Дарэчы, нялішнім будзе нагадаць, што знайсці добрае месца для гандлю не так проста, як здаецца: за састарэлымі людзьмі з пачкам цыгарэт у руках нярэдка «стаяць» дужыя хлопцы з «доўгімі рукамі».

Што ж тычыцца канкрэтных цэн, яны на сённяшні дзень наступныя. Пачак «LM» у прыватнікаў каштуе ў сярэднім 7—7,5 тысяч рублёў, «Саюз—Апалон» і «Bond» — 6 тысяч, «Marlboro» — 11—14 тысяч, «Camel» — 10—12 тысяч рублёў.

Кошт дробных партый цыгарэт, напрыклад, на Камароўскім рынку, выглядае наступным чынам (цана за блок): «LM» — 55 тысяч рублёў, «Саюз—Апалон» — 40 тысяч, «Bond» — 36 тысяч, «Marlboro» — 92 тысячы, «Camel» — 85 тысяч рублёў. Звычайна рознічным гандлярам тавар потым прадаецца па такой цане (зноў за блок): «LM» — 60 тысяч, «Саюз—Апалон» — 43—45 тысяч, «Bond» — 40—43 тысячы, «Marlboro» — 95—100 тысяч, «Camel» — 90—100 тысяч рублёў. Дарэчы, з новага года гэтыя цэны практычна не змяніліся.

На пытанне ж аб тым, што чакае гандляроў цыгарэтнага бізнесу з 1 сакавіка бягучага года (нагадаем: калі пачне дзейнічаць прэзідэнцкі ўказ аб абавязковым ліцэнзаванні гэтага віду дзейнасці), яны адказваюць прыкладна так: раней была «гарэлка», потым «валюта», затым — «цыгарэты» — і заўсёды «ўсім» жылося добра. Нешта будзе і на гэты раз...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У БРЭСЦЕ РАСЦЕ ПОПЫТ НА КВАТЭРЫ

**Як і ўсе беларускія гарады, Брэст не абышла праблема самая што ні ёсць надзённая для кожнага чалавека, — жыллёвая.**

Тэмпы будаўніцтва дзяржаўнага жылля сёння зніжаны да мінімуму, а ўдзел у долевым будаўніцтве многім не па кішэні. Прыпынены і рост катэджаў, які намеціўся пару гадоў таму. Найбольш аптымальным варыянтам сёння з'яўляецца купля кватэры.

Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у адной з кантор, якая займаюцца нерухомасцю, попыт на кватэры працягвае расці; найбольшай папулярнасцю карыстаюцца аднапакаёвыя, цэны на якія вагаюцца ад 6000 да 7500 долараў ЗША. Танней можна купіць толькі маласямейку (11 кв. м) — 4500—5000 долараў або кватэру, якая патрабуе капітальнага рамонту.

Попыт на аднапакаёвыя кватэры значна перавышае прапанаванне, чаго не скажаш аб 3-4-пакаёвых. Такія кватэры купляюць людзі, як правіла, нябедныя, а таму і пераборлівыя: кошт добрай чатырохпакаёвай кватэры складае прыкладна 20—25 тысяч долараў. Усё больш паступае прапаноў аб продажы катэджаў і ўчасткаў пад будаўніцтва, попыт на якія апошнім часам паменшыўся. Кошт катэджа вагаецца ад 20.000 (каробка) да 40—45 тысяч долараў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 8 (27)



**ПРАЎЛЕННЕ ААТ «ЗАВОД ЗБОРНАГА ЖАЛЕЗАБЕТОНУ №1»**

даводзіць да ведама акцыянераў, што справаздача па выніках работы за 1995 год адбудзецца 25 красавіка 1996 года ў 15.00 па адрасу: *г. Мінск. вул. Перадавая, 6.*

**Парадак дня:**

**1.** Справаздача праўлення.

**2.** Справаздача дырэкцыі.

**3.** Справаздача рэвізійнай камісіі.

**4.** Зацвярджэнне накірунку выкарыстання чыстага прыбытку на 1996 год.

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЭКАНАМІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ**

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне вакантных пасад:**

**заг. кафедрай** бухгалтарскага ўліку, аналізу і аўдыту ў гандлі,

**прафесара кафедры** эканамічнай гісторыі,

**дацэнтаў кафедраў** (інфармацыйнай тэхналогіі, гандлю сродкамі вытворчасці, арганізацыі і планавання прадпрыемстваў АПК, таваразнаўства харчовых тавараў, эканамічнай тэорыі),

**ст. выкладчыкаў кафедраў** (беларускай і рускай моў -- 3 адзінкі, замежных моў №2 -- нямецкая мова).

*Тэрмін падачы дакументаў на конкурс — месяц з дня апублікавання аб'явы.*

**Дакументы накіроўваць на адрас:**
**220672, г. Мінск, пр-т Партызанскі, 26. Рэктару.**

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| Двигатели к а/м ГАЗ24, ГАЗ53, М412, М2141 (1,7 л) и др. запчасти | | СФ «Орион» | (0222) 25-00-00 |
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА И ДАЧНИКА** | | | |
| Мини-трактор МТЗ-082 | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотоблоки МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотокультиваторы «Крот» с комплектом с/х орудий | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Комплекты с/х орудий к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Картофелекопатели к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Плёнка «Спанбонд» для грядок и парников. Срок эксплуатации 3-4 года. | Договорная | Организация | Тел. в Полоцке (02144) 4-47-26 (0172) 76-85-85 |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд (8—15 дней) | от 505$ | ТехноСтар | (0172) 39-47-14 |
| **СЫРАВІНА** | | | |
| Арматура, швелер, трубы | | | (0172) 23-48-86 |
| Цеплаізаляцыйныя работы | | | (1072) 23-48-86 |
| Дуб-кругляк 20 м куб. | | | (0172) 66-50-78 |

ЗАКАЗНАЯ ТЕМА

## ЕСЛИ ЧЕЛОВЕК ЧЕЛОВЕКУ ВОЛК...

Ситуация на улицах нашего города становится все более небезопасной. Все чаще люди начинают действовать по принципу «человек человеку -- волк», и, естественно, сильный всегда подомнет слабого. Но есть вещи, которые помогают уравновешивать положение слабого по отношению к сильному.

Это -- средства самозащиты. Мы предлагаем вашему вниманию одно из самых надежных -- электрошокер «**VOLMEN**». Он представляет собой небольшой (помещается в кармане, дамской сумочке, в руке) и легкий (весом всего в 200 граммов) прибор. Но при этом обладающий высоким потенциалом защитной энергии. Она и превращает «**VOLMEN**» в вашего надежного защитника и друга.

Узнать про это эффективное средство самозащиты вы можете по телефонам **32-33-36, 27-05-05** или посетив выставку-продажу по адресу: проспект Ф. Скорины, 25а (станция метро «Октябрьская»).

Телефоны региональных представителей:
**в Витебске -- 36-45-37,**
**в Гомеле -- 56-05-92,**
**в Могилеве -- 26-64-74.**

Также у фирмы-производителя появилась НОВИНКА сезона! Это система активной защиты автомобиля SAZ-1286 «Hunter for Hunters». Информацию о системе можно получить по телефону **27-05-05.**

*Мы желаем вам безопасности!*

**Алексей ХОХЛОВ.**

**ДЫРЭКЦЫЯ ААТ «ЗАВОД ЗБОРНАГА ЖАЛЕЗАБЕТОНУ №1»**

***паведамляе***, што выплата дывідэндаў за другое паўгоддзе 1995 года будзе праводзіцца ў красавіку гэтага года па адрасу: **г. Мінск, вул. Уральская, 16, ашчадная каса 8257/0122.**

Акцыянерам Мінскай вобласці будуць накіраваны паштовыя пераводы па месцы жыхарства.

**Да ўвагі крэдытораў СП «СЭВЭКС» і ўсіх зацікаўленых бакоў!**

На 04.03.1996 г. у гаспадарчым судзе Гродзенскай вобласці (г. Гродна, вул. Ажэшка, 3, пакой 147) прызначаны разгляд іскавай заявы СП «СЭВЭКС» аб прызнанні яго банкрутам.

Пачатак у 10 гадзін.

**Сярод шматлікіх клопатаў, якімі запоўнена жыццё генеральнага дырэктара БМЗ Юрыя Феакцістава, на першым плане — вытворчасць. Няпроста сёння кіраўніку прадпрыемства весці свой карабель у бушуючым моры эканамічных і сацыяльных узрушэнняў. Тут і пастаянныя неплацяжы за ўжо адгружаную прадукцыю, і недахват абаротных сродкаў, перабоі з сыравінай...**

**Словам, справы, турботы... І ўсё ж, у адрозненне ад многіх іншых працаўнікоў айчыннай індустрыі, жлобінскія металургі не толькі не зменшылі аб'ёмаў выпуску прадукцыі, але і нарошчваюць свой вытворчы патэнцыял.**

**У гэтым яшчэ раз пераканаліся ў ходзе знаёмства з дзейнасцю прадпрыемства і яго генеральным дырэктарам.**

# Юрый ФЕАКЦІСТАЎ: «СЁННЯ ПРАЦАВАЦЬ ТРЭБА НА АПЯРЭДЖАННЕ»

— Кажуць, што вялікае лепш бачыцца здаля, — гаворыць Юрый Васільевіч. — У справядлівасці гэтага яшчэ раз пераканаўся, калі пабываў не так даўно ў Егіпце. Тутэйшыя гаспадарнікі з вялікім даверам ставяцца да нас, беларусаў, вучацца складанаму майстэрству металурга. З задавальненнем зазначыў для сябе, што прадукцыю нашага завода добра ведаюць на сусветным рынку, і ў прыватнасці тут, на блізкім Усходзе. Прызнацца, няпроста было прабіцца туды. Рынкі даўно ўжо падзелены паміж вядомымі ў свеце вытворцамі. А яны не толькі не жадаюць пацясніцца, каб прапусціць навічка, а, наадварот, усяляк перашкаджаюць з'яўленню новых канкурэнтаў. У такім выпадку выйсце адно: біць высокай якасцю і цаной. А паколькі цэны на сусветным рынку жорстка кантралююцца, застаецца толькі высокая якасць. Гэтым мы і ўзялі арабаў. Спярша невялікімі партыямі адпраўлялі туды арматуру, да якой егіпцяне праявілі павышаную цікавасць. Потым пастаўкі пачалі ўзрастаць. Зацікавіла іх і літая загатоўка. Цяпер штомесячна адгружаем Егіпту 20 тысяч тон літай загатоўкі і прыкладна столькі ж — арматуры. Попыт на нашу прадукцыю там пастаянна расце. Папрасілі падвоіць адгрузку. Але і ў нас магчымасці абмежаваныя. Для расшырэння вытворчасці патрэбны дадатковыя інвестыцыі. Егіпцяне пайшлі насустрач: выдзелілі спярша 4 мільёны долараў, а потым яшчэ 3. У выніку, пачынаючы з мая гэтага года, мы зможам адгружаць ім у месяц па 35 тысяч тон літай загатоўкі.





**— Паколькі арабы, як кажуць, паклалі вока на літую загатоўку, ці азначае гэта, што там маюць намер наладзіць уласную металургічную вытворчасць?**

— Сапраўды, яны вядуць будаўніцтва металургічнага завода, які зможа выдаваць да 300 тысяч тон пракату ў год. Маюць намер увесці ў строй сталеплавільны цэх, змантіраваць машыну для бесперапыннага разліву сталі. Звярнуліся да нас па дапамогу. Мы адгукнуліся на іх просьбу, накіравалі туды вопытных спецыялістаў. Заключылі кантракт на год, потым яшчэ на адзін. І гэта прынясе немалыя валютныя паступленні ў дзяржаўную казну.



**— Сёння многія скардзяцца на тое, што, маўляў, затаварваюцца. Няма збыту ні тут, у рэспубліцы, ні ў краінах СНД, не кажучы пра далёкае замежжа.**

— Хто шукае, той знаходзіць. І ў нас, асабліва пасля развалу Саюза, знаходзіліся гарачыя галовы, якія прапаноўвалі згарнуць вытворчасць з-за адсутнасці збыту. Маўляў, прасцей плаціць зарплату за прастой, чым працаваць на склад. Я выступіў катэгарычна супраць згортвання вытворчасці. Знайшліся аднадумцы, якія падтрымалі мяне. Пачалі шукаць рынкі збыту на Захадзе. Там зацікавіліся нашай прадукцыяй, а найперш — кордам. Бум ў аўтамабілебудаўніцтве не толькі не спадае, а, наадварот, расце. А адпаведна павялічваецца і попыт на металічны корд — аснову шыннай вытворчасці. Шырокім попытам карыстаецца прадукцыя БМЗ у традыцыйна аўтамабілебудаўнічых краінах — Аўстрыі, Германіі, Францыі, Італіі... Праяўляюць цікавасць да нашага корду і за акіянам. Цяпер ён праходзіць выпрабаванні ў Індыі і Кітаі. Словам, каб выжыць, сёння працаваць трэба на апярэджанне. Інакш не выстаяць у гэтай віхуры часу, шматлікіх праблем, ад якіх галава ідзе кругам.

**— Ведаю, што разам з вытворчымі справамі нямала часу ў генеральнага дырэктара адымае і так званы сацкультбыт...**

— Як ні цяжка цяпер, але імкнёмся будаваць, і найперш жыллё. Летась пры плане 799 кватэр пабудавалі 902. І хоць на бягучы год аб'ём жыллёвага будаўніцтва крыху зменшыўся (будаваць даводзіцца за кошт прыбытку), але стараемся не згортваць жыллёвую праграму. Сёння вельмі модным стала сцвярджэнне, што, маўляў, будаваць трэба за асабістыя грошы. Паспрабуй сабраць тыя 100 мільёнаў рублёў на кватэру, калі сярэдняя зарплата па заводу недзе каля паўтара мільёна.

Не менш востра стаяць і пытанні навучання дзяцей. Хіба гэта парадак, калі 26 пачатковых класаў вымушаны займацца ў дзіцячых садках? Таму неабходны новыя школы для нашага горада. У будучым годзе мяркуем увесці ў эксплуатацыю яшчэ адну сярэднюю школу.

Нямала часу і сродкаў патрабуе праблема дзіцячага аздараўлення. Толькі за мінулы год у лепшых здраўніцах рэспублікі, блізкага і далёкага замежжа адпачылі каля 2,5 тысячы дзяцей металургаў. Вялікай папулярнасцю карыстаецца адпачынак дзяцей у сем'ях іншаземцаў. Ахвотна прымаюць юных беларусаў у Швецыі, Германіі, Іспаніі, Італіі. Летась да нас прыехала група каардынацыйнага бацькоўскага савета з Іспаніі. Колькі непадробнай радасці было ад сустрэч з дзецьмі, якія адпачывалі ў іх дома! А вечар у Палацы культуры металургаў, што быў наладжаны ў іх гонар, стаў сапраўдным святам інтэрнацыянальнай дружбы.

Аздараўленне металургаў і іх сем'яў непасрэдным чынам звязана з развіццём фізкультуры і спорту.

Ніколі не пустуе фізкультурна-аздараўленчы комплекс. Вялікай папулярнасцю карыстаецца настольны тэніс, стэндавая стральба, турызм, веласпорт... Прыступілі да будаўніцтва лёдавага палаца. З яго завяршэннем сотні аматараў канькабежнага спорту, хакеісты змогуць трэніравацца круглы год.

Вядома, сёння з трывогай чытаеш, глядзіш па тэлевізары, як людзі пакутуюць ад беспрацоўя, як шырыцца забастовачны рух. А нашаму чалавеку не так і шмат трэба для спакойнага жыцця: любімая работа, своечасовая зарплата, дах над галавой... Усё гэта ў пэўнай ступені маюць жлобінскія металургі.

Ва ўсякім разе, як ні цяжка іншы раз бывае, але заработную плату імкнёмся выдаваць рэгулярна.

**На здымках: генеральны дырэктар БМЗ Юрый ФЕАКЦІСТАЎ; дырэктар па кадрах, рэжыму і сацыяльнаму развіццю Мікалай АКСЁНАЎ гутарыць з начальнікам тэхнічнага ўпраўлення завода Міхаілам ГУЛЯЕВЫМ і намеснікам начальніка электрасталеплавільнага цэха Эдуардам Івановым; адзін з новых мікрараёнаў Жлобіна, дзе жывуць металургі; намеснік старшыні прафкома завода Аляксандр Міронаў і старшыня прафкома электрасталеплавільнага цэха Тамеп Уксукпаеў абмяркоўваюць акт прыёмкі чарговага жылога дома.**





РЭПАРТАЖ

# ГАРАЧЫ МЕТАЛ



**З РАСЧЫНЕНАГА зева печы патыхае нясцерпнай гарачынёй. Адчуванне такое, быццам зазірнуў у самае пекла. На дне булькоча, пеніцца метал, дакладней, рэштکі таго, што засталося ад папярэдняй плаўкі.**

Тым часам на цэнтральным пульце кіравання электрасталеплавільнага цэха сталявар Іван Пагодзін уважліва знаёміцца з данымі, што паступаюць сюды. Усё ў парадку — самы час праводзіць чарговую загрузку печы. Вялізная сталёвая махіна вяртаецца ў сваё звыклае вертыкальнае становішча. Над ёй завісае коўш, запоўнены металічным ломам. Расчыняецца днішча — і стотонная маса спецыяльна прыгатаванай шыхты з шумам ляціць уніз. З чэрава печы ўгору ўзнімаюцца велізарныя языкі полымя і дыму. Печ загружана. Пачынаецца працэс плаўкі.

Тут жа прысутнічае старшы майстар Мікалай Фокін. Ён працуе на БМЗ з самага першага дня пуску печы № 2 — недзе з 1984 года. Праехаў сюды ажно са Златауста, дзе працаваў на металургічным заводзе «Спецсталь». Вучыўся сам, вучыў іншых. І вось ужо беларуская зямля стала для яго другой радзімай.

Побач шчыруе сталявар Аляксандр Сідарэнка. Таксама ля печы ўжо недзе больш як адзінаццаць гадоў. Па яго ўласным прызнанні, ён «бульбаш», з мясцовых. Выдатна засвоіў нязвыклую для тутэйшых мясцін прафесію металурга. Лічыцца нядрэнным майстрам сваёй справы. І наогул на прадпрыемстве цесна спляліся жыцці і лёсы многіх людзей з усіх куткоў некалі неабсяжнага Саюза — побач працуюць рускія, татары, казахі, украінцы і, вядома ж, беларусы. Ніякіх этнічных, міжнацыянальных канфліктаў і ў паміне няма: больш за ўсё цэніцца мужчынская дружба, прафесіяналізм, уменне самаададана працаваць, а калі трэба, то і падставіць сваё плячо іншаму.

Час ляціць хутка. Мінае гадзіна з нечым, і плаўка завершана. Да печы падаецца спецыяльны коўш. І вось ужо з эркернага выпуску печы імкліва вырываецца на волю вогненны струмень. Тысячы іскраў феерверкам рассыпаюцца ў паветры. Захапляючы малюнак!

Далей коўш з расплаўленым металам падаецца на машыну перапыннага разліву сталі — вялізарную махіну, што ўзнімаецца на металічным пастаменце. Здаецца, што са спецыяльных адтулін выпаўзаюць на волю даўжэзныя вогненныя змеі. Паступова іх колер з ярка- бурштынавага набывае малінавае, потым цёмна-чырвонае адценне. І вось ужо літыя загатоўкі сячэннем 125х125 міліметраў укладваюцца на спецыяльныя прыстасаванні.

Побач з намі дырэктар па кадрах, рэжыму і сацыяльнаму развіццю Мікалай Аксёнаў і начальнік тэхнічнага ўпраўлення Міхаіл Гуляеў. Яны аб нечым зацікаўлена размаўляюць з намеснікам начальніка электрасталеплавільнага цэха Эдуардам Івановым. Усё як быццам у парадку, а таму на твары «тэхнічнага боса»— упэўненасць і спакой. Між тым, Міхаіл Паўлавіч мімаходзь зазначае:

— Нарэшце, знайшлі-такі час, каб замяніць накрыўку на разлівачнай машыне.

На што намеснік начальніка цэха тут жа адрэагаваў:

— А колькі часу, сіл гэта каштавала!

А ўвогуле сталеплавільная вытворчасць уключае электрасталеплавільны цэх з трыма дугавымі электрапечамі ёмістасцю па 100 тон кожная, магутны трансфарматар, тры машыны для бесперапыннага разліву сталі, устаноўку для набіўкі футароўкі і шэраг іншых складаных прыстасаванняў. Дарэчы, упершыню ў былым Саюзе тут асвоена тэхналогія аднашлакавага працэсу выплаўкі сталі на пеністых шлаках, што дало магчымасць весці плаўку на высокіх ступенях напружання. Усе аперацыі, звязаныя з працэсам выплаўкі металу, а таксама кантролем за яго якасцю, аўтаматызаваны і кантралююцца ЭВМ.

Літая загатоўка накіроўваецца як спажыўцам (у тым ліку і на экспарт), так і для далейшай перапрацоўкі ў пракатных станах.

Разам з намеснікам генеральнага дырэктара ідзём у пракатную вытворчасць. Уражвае памерамі сортапракатны стан 320/150, які забяспечвае выпуск 460 тысяч тон пракату ў год. Стан уключае ў сябе 20 магутных клецяў, дзе літая загатоўка раскачваецца на арматуру, швелер, вугалок, а таксама металакорд.







**На здымках: сталявар Аляксандр СІДАРЭНКА, за пультам кіравання пракатнага стана аператар Міхаіл ДЗМІТРЫЕЎ; арматура — на патоку; ідзе загрузка электрапечы; бухты катанкі рыхтуюцца да адпраўкі спажыўцам.**

Пасля пракатнай клеці атрымліваецца так званы раскат даўжынёй 24—36 метраў. Яго затым рэжуць да патрэбнага памеру на абразіўна-адразным станку. Тут таксама вытворчыя працэсы надзвычай механізаваныя і аўтаматызаваныя. Амаль не бачна людзей — усё кантралююць ЭВМ.

Толькі тут зразумеў сэнс нядаўна пачутай ад генеральнага дырэктара БМЗ фразы:

— Разумеючы душу айчыннага ўмельца з адверткай у адной руцэ і кувалдай — у другой, які пастаянна імкнецца нешта перарабіць, удасканаліць, мы ў свой час наогул забаранілі рацыяналізацыю, прынамсі, на асноўнай вытворчасці: І правільна зрабілі. Там, дзе ўсё да драбніц разлічана на камп'ютэрах, а вытворчыя працэсы кантралююцца праз ЭВМ, дарослым умельцам няма чаго рабіць. Хіба толькі нашкодзіць.

Прыпомнілася сітуацыя, якая адбылася некалькі гадоў назад на магілёўскім прадпрыемстве. Там умельцы прапанавалі паскорыць работу ткацкіх станкоў англійскай вытворчасці. Аднак гэтаму перашкаджалі спецыяльныя прыстасаванні — невялічкія скрыначкі, якія неадкладна знялі.

Сапраўды, скорасць узрасла. Аднак не паспелі атрымаць прэмію за ўкараненне рацпрапановы, як выбухнуў скандал: пайшоў суцэльны брак. Аказваецца, паспяшаліся выкінуць тыя «непатрэбныя» скрыначкі...

Імкліва нясуцца праз клеці літыя загатоўкі, якія на вачах ператвараюцца ў звычайную арматуру. Яе рэжуць, звязваюць. А ў цэху ўжо стаяць пад загрузкай чыгуначныя паўвагоны. Ідзе беларускі метал па гарадах, краінах, кантынентах.

**Матэрыялы выпуску падрыхтаваў Уладзімір ГОЙТАН. Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# ЛІДЭРЫ ДУМАК АБ СВАБОДЗЕ ДРУКУ Ў БЕЛАРУСІ

**СТАНОВІШЧА сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі ўжо даўно ператварылася ў праблему, якая хвалюе многіх. Аб гэтым спрачаюцца палітыкі, пішуць самі журналісты, гавораць радавыя грамадзяне як у самой Беларусі, так і за рубяжом. Аднак прадстаўнікі уладаў захоўваюць алімпійскі спакой, заяўляючы, што праблема свабоды друку «надумана ствараецца вузкай кучкай нездаволеных інтэлектуалаў, палітычных апазіцыянераў і нячыстых на руку камерсантаў». Праводзячы ў 1995 годзе пакваргальныя апытанні 100 лідэраў думак, у лік якіх увайшлі палітыкі, бізнесмены, журналісты і вучоныя, што прадстаўляюць як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя структуры, якія прытрымліваюцца самых розных, часам процілеглых, ідэалагічных і палітычных арыентацый, мы на працягу года высвятлялі іх думку і аб становішчы мас-медыя ў Рэспубліцы Беларусь. Особныя вынікі гэтых апытанняў публікаваліся ўжо ў друку, аднак цэласная карціна настолькі ўражвае, што, на мой погляд, заслугоўвае асобнага прадстаўлення грамадскай думкі.**

*Вось як размеркаваліся адказы лідэраў на пытанне: «Як вы ацэньваеце палітычнае і эканамічнае становішча СМІ ў Беларусі?» (працэнт)*

| Становішча СМІ | Лідэры думак у цэлым | Лідэры думак дзяржс | Лідэр дума недзя струк |
|---|---|---|---|
| СМІ ў РБ незалежныя | 1,4 | 0 | 2,4 |
| СМІ ў РБ залежныя палітычна, але незалежныя эканамічна | 2,8 | 0 | 4,8 |
| СМІ ў РБ залежныя эканамічна, але незалежныя палітычна | 5,6 | 10,0 | 2,4 |
| СМІ ў РБ залежныя і палітычна, і эканамічна | 84,7 | 76,7 | 90,5 |

Як відаць, абсалютная большасць лідэраў думак, у тым ліку і ў дзяржструктурах, не лічаць мас-медыя ў Беларусі свабоднымі. Папулярная сярод уладатрымальнікаў думка аб тым, што калі свабоду СМІ сёння што і абмяжоўвае, дык гэта недахват сродкаў, — не адпавядае рэчаіснасці. Палітычная залежнасць — гэта перш за ўсё «недахват» свабоды.

*Сапраўдны «фактар залежнасці» выявіўся пры адказе на пытанне: «Калі вы лічыце, што СМІ ў РБ залежныя, то ад каго?*

| Залежнасць СМІ | Лідэры думак ў цэлым | Лідэры думак дзяржстр | Лідэры думак недзярж. структур |
|---|---|---|---|
| Ад Прэзідэнта | 81,9 | 73,3 | 88,1 |
| Ад іншых уладных структур | 64,4 | 60,0 | 76,2 |
| Ад палітычных партый і грамадскіх арганізацый | 25,0 | 36,7 | 16,7 |
| Ад айчынных прадпрымальнік | 22,2 | 36,7 | 11,9 |
| Ад міжнародных арганізацый і замежнага капіталу | 15,3 | 23,3 | 9,5 |
| Ад карпаратыўных інтарэсаў саміх журналістаў | 20,8 | 33,3 | 11,9 |
| Ад попыту аудыторыі | 18,1 | 33,3 | 7,1 |

Каментарыі, як кажуць, не патрэбныя: ні партыі, ні айчынны ці замежны капітал, ні самі журналісты або аўдыторыя істотна не ўплываюць на становішча мас-медыя. Ступень іх свабоды (ці несвабоды) вызначаецца галоўным чынам уладнымі структурамі, і перш за ўсё кіраўніком дзяржавы. Дзіўна, што ў гэтым перакананы таксама і лідэры думак з дзяржаўных структур! Паколькі ў нашай краіне дзяржава з'яўляецца заснавальнікам ці сузаснавальнікам большай часткі СМІ, то гэтыя людзі, несумненна, ведаюць, што кажуць.

Бадай, найбольш уражальным прыкладам гэтай залежнасці стала тая роля, якую СМІ Беларусі адыгралі ў падрыхтоўцы і правядзенні парламенцкіх выбараў. Свабодныя выбары, як вядома, з'яўляюцца важнейшым крытэрыем дэмакратыі і разглядаюцца ў якасці галоўнай умовы прыняцця Беларусі ў Савет Еўропы. У сваю чаргу свабода прэсы, радыё і тэлебачання ў выбарчых кампаніях разглядаецца як галоўны крытэрый свабоды саміх выбараў.

*Вось як, на думку нашых рэспандэнтаў, праявілася залежнасць ці незалежнасць СМІ пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у Вярхоўны Савет РБ:*

| Магчымасці СМІ | Лідэры думак у цэлым | Лідэры думак дзярж. структур | Лідэры думак недзярж. структур |
|---|---|---|---|
| **Дзяржаўных СМІ:** | | | |
| свабодна прадстаўляць любых кандыдатаў | 11,1 | 26,7 | 0 |
| свабодна каменціраваць і аналізаваць пазіцыі і праграмы любых кандыдатаў | 12,5 | 26,7 | 2,4 |
| **Недзяржаўных СМІ:** | | | |
| свабодна прадстаўляць любых кандыдатаў | 40,3 | 50,0 | 33,3 |
| свабодна каменціраваць і аналізаваць пазіцыі і праграмы любых кандыдатаў | 47,2 | 50,0 | 45,2 |

Гэтыя лічбы сведчаць пра многае. Па-першае, большая частка лідэраў думак лічыць, што СМІ ў цэлым не былі свабодныя пры падрыхтоўцы і правядзенні выбарчай кампаніі. Па-другое, ступень свабоды недзяржаўных СМІ ацэньваецца значна вышэй, чым дзяржаўных (а іх, нагадаем, большасць). Па-трэцяе, лідэры думак з дзяржструктур ацанілі свабоду недзяржаўных СМІ нават вышэй, чым лідэры з недзяржаўных структур. А гэта азначае, што кіраўнікі дзяржаўных мас-медыя глядзяць на сваіх недзяржаўных калег з доляй зайздрасці, часткова нават пераацэньваючы ступень іх свабоды.

Прыкладаў таго, як менавіта адбываецца абмежаванне свабоды СМІ ў Беларусі, не злічыць, мы папыталіся толькі аб адным, які атрымаў скандальную вядомасць таму, што закранаў ужо не ўласныя, а зарубежныя СМІ: «У жніўні 1995 г. У. Замяталін накіраваў у Дзяржduму РФ пісьмо аб прадузятых адносінах некаторых расійскіх СМІ да падзей у Беларусі.

*Што вы пра гэта думаеце?»*

| Ацэнка пісьма | Лідэры думак у цэлым | Лідэры думак дзярж. структур | Лідэры думак недзярж. структур |
|---|---|---|---|
| Гэта быў неабходны крок | 4,7 | 7,1 | 4,0 |
| Без гэтага цалкам можна было абысціся | 32,6 | 57,1 | 24,0 |
| Гэта было памылкай | 62,7 | 35,8 | 72,0 |

Як бачым, дзве трэці лідэраў думак адмоўна аднесліся да ініцыятывы У. Замяталіна, прычым яе не адобрылі нават прадстаўнікі дзяржструктур.

Наогул, праблема свабоды друку уяўляе сабой не толькі палітычную, але, калі хочаце, і логіка-філасофскую праблему. На самай справе, для чаго ўлады абмяжоўваюць свабоду СМІ? Відаць, для таго, каб кантраляваць такі магутны сродак уплыву на грамадства і ў канчатковым выніку ўзмацняць уласны ўплыў (у мэтах «перавыхавання» грамадства, умацавання сваёй улады і інш.). Але ці дасягаецца чакаемы вынік?

*Вось як адказалі нашы рэспандэнты на пытанне: «Як паўплывалі рэпрэсіі супраць СМІ на эфектыўнасць іх дзейнасці?»*

| Эфектыўнасць СМІ | Лідэры думак у цэлым | Лідэры думак дзярж. структур | Лідэры думак недзярж. структур |
|---|---|---|---|
| Рэальны ўплыў СМІ на грамадства зменшыўся | 51,2 | 48,7 | 53,5 |
| Рэальны ўплыў СМІ на грамадства не змяніўся | 23,2 | 28,2 | 18,6 |
| Рэальны уплыў СМІ на грамадства павялічыўся | 15,9 | 10,3 | 20,9 |
| Цяжка адказаць | 9,7 | 12,8 | 7,0 |

Як відаць з табліцы, толькі меншасць лідэраў думак лічаць, што ў выніку абмежавання свабоды СМІ ўлада ўзмацняе свой уплыў на грамадства. Перамога ўладаў над свабодай друку аказваецца сапраўды піравай: СМІ страчваюць магчымасць рэальнага ўплыву на грамадства і ператвараюцца ў чарговы прыдатак уладных структур (як гэта ўжо было, было...) На такі сумны вынік указваюць, у прыватнасці, і вынікі нацыянальнага апытання, праведзенага НІСЭПД у тым жа 1995 годзе (па рэпрэзентатыўнай выбарцы было апытана 1414 чалавек). Самай надзейнай і праўдзівай крыніцай інфармацыі грамадзяне Беларусі лічаць расійскі тэлеканал «Астанкіна» — 39,1 працэнта, якому ўступаюць і грамадская прэса — 29,8 працэнта, і тэлебачанне — 25,2 працэнта, і радыё — 18,3 працэнта.

Такім чынам, свабоду друку ў Беларусі лідэры думак ацэньваюць невысока.

*Як жа трэба змагацца за свабоду друку? «Што менавіта трэба было б змяніць у становішчы СМІ ў Беларусі?» Вось што адказалі на гэта пытанне лідэры думак:*

| | |
|---|---|
| Заканадаўча абмежаваць залежнасць СМІ ад дзяржавы (праз Закон аб тэлерадыёвяшчанні, Закон аб выдавецкай дзейнасці, Закон аб аўтарскіх правах і інш.) | 75,5 |
| Прыватызаваць сродкі вытворчасці і распаўсюджвання масавай інфармацыі (друкарні, перадатчыкі, студыі, рэлейныя лініі, сістэму распаўсюджвання друку і інш.) | 53,1 |
| Стварыць Нацыянальны савет па тэлерадыёвяшчанню, у які ўвайшлі б прадстаўнікі ўсіх галін улады, СМІ і незалежныя эксперты | 43,9 |
| Прыцягнуць замежныя інвестыцыі для развіцця айчынных СМІ да сусветнага ўзроўню | 36,7 |
| Стварыць незалежную Камісію па радыёчастотах | 29,6 |
| Стварыць незалежны Фонд падтрымкі прэсы, якая б рэгулявала фінансаванне друку з дзяржбюджэту | 25,5 |
| Узмацніць дзяржаўны і грамадскі кантроль за дзейнасцю СМІ | 9,2 |
| Павялічыць прамыя дзяржаўныя датацыі на развіццё СМІ | 5,1 |
| Іншае | 12,2 |

Сярод «іншых» мераў прапаноўвалася: захоўваць Канстытуцыю і дзеючы Закон аб друку, прыняць новы Закон аб друку, стварыць сістэму прыватных друкарняў і альтэрнатыўнага распаўсюджвання перыёдыкі, выключыць сумеснае заснаванне СМІ дзяржаўнымі і недзяржаўнымі структурамі, не дапускаць палітычнага лабіравання ў дзяржаўных СМІ, прадаваць радыёчастоты на конкурснай аснове і нават набыць радыёчастоты ў Польшчы, Расіі ці Літве для вяшчання на Беларусь!

У прынцыпе, некаторыя з гэтых рэкамендацый мала чым адрозніваюцца ад рэкамендацый, выказаных шматлікімі экспертамі ААН, Еўрапейскага саюза, АБСЕ, Дзярждэпартамента ЗША і іншых міжнародных і зарубежных арганізацый, якія ўважліва сочаць за захаваннем правоў чалавека ў нашай краіне, у тым ліку і права на свабоднае атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі, асабліва ў перыяд прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Патрабаванне захавання гэтых правоў вылучаецца і Саветам Еўропы, членам якога Беларусь спадзяецца стаць.

Наколькі беларускія ўлады прыслухоўваюцца да такіх рэкамендацый? Ці працягваюць ад іх адмахвацца, як ад думкі «самазванай псеўдаэліты», якая не выражае нікога, акрамя сябе? Мяркуючы па нядаўняму распараджэнню Прэзідэнта «Аб некаторых пытаннях дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі», якое прадугледжвае забяспечваць свабоду друку ў Беларусі шляхам далейшага адзяржаўлення сродкаў масавай інфармацыі, гэта думка зноў у разлік не бярэцца. У разлік, відаць, бярэцца толькі «народнае волевыяўленне». Дазволю сабе ў сувязі з гэтым напомніць, што калі згодна з упамянёным нацыянальным апытаннем 1995 года 36,6 працэнта рэспандэнтаў найбольш эфектыўным шляхам выказвання сваёй думкі і ўздзеяння на ўлады лічылі «выступленні ў прэсе, па радыё і тэлебачанні», тады як мітынгі і дэманстрацыі ўказалі каля 25 працэнтаў, забастоўкі — каля 20 працэнтаў, а гвалтоўныя дзеянні — 7,4 працэнта, то ў далейшым абмежаванне свабоды друку, якое прыводзіць да страты сродкамі масавай інфармацыі сваёй рэальнай ролі, могуць перавярнуць гэты рэйтынг. Думаю, што ў такім развіцці падзей у Беларусі ніхто не зацікаўлены.

**Алег МАНАЕЎ,**
**прафесар, дырэктар НІСЭПД.**

***НЕВЯДОМАЯ БЕЛАРУСЬ***

# АКЦЫЯ «ВЫРАТАВАННЕ»

**У ВЫДАВЕЦТВЕ «Беларусь» рыхтуецца да друку гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна «Памяць». З таго мноства фактаў і падзей, якія выкладзены ў раздзеле хронікі, прысвечаным Вялікай Айчыннай вайне, на мяне, як на рэдактара рукапісу, найбольшае ўражанне аказаў артыкул І. Шашані пра навагрудскае гета. Дзесяць гадоў назад гэты артыкул быў апублікаваны ў польскім друку. Спадзяюся, што ён выкліча пэўную цікавасць і ў чытачоў «Звязды». Таму прапаную яго ў перакладзе на беларускую мову.**

У пачатку акупацыі Навагрудка фашысты сагналі ўсіх яўрэяў у гета. Там яны прайшлі праз такія пакуты, пра якія нават і цяпер расказваць цяжка, бо чалавечая душа разрываецца ад болю.

Спачатку вязні гета не бачылі шляху да выратавання, яны не знаходзілі выйсця з таго пекла, у якім апынуліся. Цягнуліся дні страшэннага адчаю і здранцвення, якое было выклікана няспыннымі акцыямі карнікаў па знішчэнню вязняў.

Калі ж у наваколлі Навагрудка з'явіліся партызаны і чуткі пра іх дзейнасць сталі даходзіць да гета, у апошнім узнік падпольны рух. Яшчэ няпэўная, кволая, але ўсё ж з'явілася надзея на выратаванне. Падпольшчыкаў узначаліў урач Якаў Коган, чалавек рашучы і смелы. Ён заклікаў вязняў да адкрытага супраціўлення ў выпадку пагрозы знішчэння гета. Падпольная арганізацыя прыйшла да высновы, што іншага шляху выратавання, апрача прарыву агароджы гета, няма. Пачалася актыўная дзейнасць па назапашванню зброі ўсімі сродкамі і падрыхтоўка моладзі да ўзброенага супраціўлення.

Пасля акцыі карнікаў 7 мая 1943 г. у навагрудскім гета засталося не больш чым 550 вязняў, якія кожную гадзіну чакалі сваёй смерці. Яны працавалі ў памяшканнях былога акруговага суда, дзе немцы абсталявалі майстэрні для рамеснікаў. Тэрыторыя гета асвятлялася моцнымі пражэктарамі, была агароджана калючым дротам і вартавалася ўзмоцненымі атрадамі карнікаў.

Правалілася прызначанае на 15 красавіка ўзброенае паўстанне. Гэта прывяло да заняпаду духу і апатыі да ўсяго, што адбывалася. У такім становішчы кіраўнікі падпольнай арганізацыі засяродзілі сілы на тлумачальнай рабоце сярод яўрэяў, указваючы на небяспеку, якая ім пагражае, калі яны будуць сядзець склаўшы рукі. «Толькі пастаянная гатоўнасць і рашучасць могуць дапамагчы ў існуючым становішчы», — папярэджвалі члены штаба арганізацыі. Перад пагрозлівым прывідам смерці супраціўленне ператварылася ў рэальнасць і набыло практычную накіраванасць.

У гэты час і ўзнікла думка выкапаць тунель, па якім усе вязні змаглі б прайсці ў лес і далучыцца да партызанскага атрада Бельскага. Ідэя капання тунеля для ўсіх яўрэяў была адзіным выратаваннем, адзінай магчымасцю вырвацца з гета.

Работа па капанню тунеля, пачатая ў канцы красавіка 1943 г., ішла хуткімі тэмпамі. Асноўная цяжкасць заключалася ў тым, што выкапаць праход і рухацца па ім можна было толькі лежачы, — вышыня тунеля была 70, а шырыня — 60 см. Амаль усе фізічна здаровыя мужчыны ўдзельнічалі ў рабоце па дзве гадзіны ў дзень пасля вяртання з майстэрняў. Выкапаную частку зямлі засыпалі ў мяшэчкі, якія спецыяльна былі падрыхтаваны краўцамі гета. Зямлю высыпалі на гарышчах пустых хат, у пустых памяшканнях, накідваючы на яе затым парваную бялізну, каб не выклікаць падазронасці. Былі абсталяваны і падвойныя сцены, паміж якімі высыпалі выкапаную зямлю. Зямлёю быў засыпаны нават адзіны на тэрыторыі гета калодзеж, які не выкарыстоўваўся. Усё рабілася так, каб ніхто з варты не мог ні пра што здагадацца.

Пазней, калі тунель ужо быў пракапаны больш чым на сто метраў і дайшоў да агароджы гета, цесляры зрабілі спецыяльныя ваганеткі, якія на вяроўках цягнулі па дошках, пракладзеных у тунелі. Перад заканчэннем работ была вырашана і праблема асвятлення: у тунель быў праведзены электрычны ток.

Да верасня 1943 г. вязні гета здолелі выкапаць тунель даўжынёю 250 метраў (100 метраў да агароджы гета і 150 метраў за ёю). Каб не страціць напрамак, а таксама для забеспячэння доступу свежага паветра (яго не хапала), бляхары зрабілі спецыяльныя конусападобныя трубкі. Тэхнічнае кіраўніцтва работай ажыццяўляў адзін з лідэраў падпольнай арганізацыі, навагрудскі хлопец Берл Іосялевіч, які валодаў добрымі арганізатарскімі здольнасцямі. Уся работа па капанню тунеля праходзіла пры строгай канспірацыі. Таму на працягу многіх месяцаў немцы і іх прыслужнікі так нічога і не заўважылі.

Пасля таго як да Навагрудка дайшлі чуткі, што ліквідавана гета ў Лідзе, стала зразумела, што зацішша доўгім не будзе і хутка прыйдзе чарга і Навагрудка. Было прынята рашэнне, пакуль яшчэ ёсць час, уцякаць праз тунель. Акцыя «Выратаванне» была прызначана на 26 верасня 1943 г. За некалькі дзён да яе Коган загадаў скласці спіс людзей, якія павінны былі ўцякаць праз тунель.

Сігнал да ўцёкаў быў пададзены ў 9 гадзін вечара. Члены штаба на чале з Коганам узброеныя стаялі каля ўваходу ў тунель, а Берл Іосялевіч, які трымаў спіс уцекачоў, выклікаў кожнага па прозвішчу. Выкліканы ўпаўзаў у тунель.

На шчасце, ліў дождж, дзьмуў моцны вецер, і варта не магла заўважыць незвычайны ўздым у гета. Электрык—вязень Невяховіч зрабіў кароткае замыканне, і пражэктар, які асвятляў тэрыторыю, патух. Усім уцекачам быў указаны маршрут і месца збору.

Людзі, якія вырваліся на волю, адчулі нарэшце подых свабоды, аднак у поцемках многія заблудзіліся. Да таго ж хтосьці забыў патушыць святло ў хляве. Усчаўся пажар. І калі немцы і паліцаі прыбеглі ў гета, яны вельмі здзівіліся, што яно пустое. Узнялася страшэнная страляніна. Немцы адразу ж пачалі аблаву. Тыя з вязняў, якія не паспелі адбегчы далей ад горада і схавацца ў лесе, былі схоплены. Сярод такіх няўдачнікаў апынуліся і Коган з Іосялевічам. З 232 вязняў 150 удалося дасягнуць партызанскага атрада Бельскага, дзе іх сустрэлі з вялікай радасцю. У гэтым атрадзе былыя вязні гета змагаліся да самага вызвалення Навагрудскага раёна Чырвонай Арміяй.

**Вячаслаў ВОЛЬСКІ.**

СУСТРЭЛІСЯ ПІСЬМЫ

## ЦІ ДАПАМОЖА НАМ БЯСПЛАТНАЯ МЕДЫЦЫНА?

**Вырашыў напісаць вам, паважаная рэдакцыя, з прычыны жудаснага выпадку, сведкам якога быў, і паразважаць на набалелую тэму медыцынскай дапамогі ў краіне.**

Некалькі тыдняў таму на маіх вачах памёр чалавек. Можаце ўявіць сабе, якую жахлівую сітуацыю давялося назіраць. Вельмі было прыкра на душы. Хваляваліся людзі, што стоўпіліся вакол. На дзіва хутка прыехала «хуткая дапамога». Праўда, з машыны вылезла жанчына ў белым халаце, паклала два пальцы на шыю ляжачаму і сказала, каб выклікалі міліцыю, бо яны трупы не забіраюць. Гэтыя словы разанулі, як маланка, людзі раптам змоўклі. Зразумейце, усе чакалі, што чалавеку будуць дапамагаць, ратаваць яго, тым больш, што некалькі хвілін назад ён яшчэ размаўляў. А тут з'яўляецца ўрач толькі дзеля таго, каб канстатаваць, што чалавек памёр, і нават не паспрабавала дапамагчы яму, хаця ратаваць людзей — яе абавязак. Паўтараю: ратаваць, а не даваць заключэнне. Гэта ж «хуткая дапамога», а не пахаронная каманда.

Я ўжо ведаю, што мне адказалі б людзі, якія ўхваляюць «бясплатную» нашу медыцыну. Ды хіба яна для нас бясплатная, і ўвогуле, ці гэта медыцына?

Напрыклад, калі жанчыне прыспеў час нарадзіць дзіця, трэба несці з сабой тры метры марлі (пры кесаравым сячэнні — 25 м). Прыпісалі вам уколы — абавязкова прыхапіце аднаразовыя шпрыцы, іголкі, лекі; калі вас кладуць у бальніцу, адразу выпісваюць рэцэпт, якія лекі трэба купіць. Але вось дзе купіць і колькі гэта каштуе, нікога не турбуе. Дык пра якую бясплатную медыцыну можна гаварыць? Хіба гэта нармальна, калі нашы заможныя землякі адпраўляюць сваіх жонак нараджаць у Ізраіль, Іспанію, Францыю, Германію? Адбываецца ўсё таму, што там медыцына хоць і платная, затое ўмовы і адносіны чалавечыя, а ў нас ўсё быццам бясплатнае, затое ўмовы экстрэмальныя. А рызыкаваць, асабліва калі ў цябе ёсць грошы, дарагім чалавекам і будучым нашчадкам ніхто не жадае.

Вось і хацелася б звярнуцца да дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання з прапановай адкінуць усе ідэалагічныя догмы і прыняць закон, які дазваляў бы функцыянаваць разам з агульнапрызнанай і платнай медыцынай А мы, простыя людзі, калі прыйдзецца, ужо самі выбіралі б, дзе нам лячыцца. На мой погляд, вельмі разумна зрабілі ў Казахстане. Там у Канстытуцыі запісалі, што ў краіне нароўні з бясплатнай развіваецца платная медыцына. Мне асабіста здаецца, што гэткія змены не пашкодзілі б і нам, беларусам. У выніку выйграла б і краіна, і людзі, якія жывуць і лечацца ў ёй.

**Аляксей КОДЗІН,**
*г. п. Узда.*

**P.S.** Хацелася б ведаць, чаму ўзнік дэфіцыт аднаразовых шпрыцаў? Выкарыстанне шматразовых — гэта ж небяспечна для здароўя?

## ТУТ АДЧУВАЕШ СЯБЕ ЯК ДОМА

**Колькі разоў я хацела напісаць у газету, але абставіны складваліся так, што ўзялася за пяро менавіта цяпер.**

Я, педагог па адукацыі, у свой час працавала сястрой міласэрнасці ў Таварыстве міласэрнасці святой прападобнай Ефрасінні Полацкай. Мне вельмі часта прыходзіцца сутыкацца з жорсткасцю у наш час, калі людзі імкнуцца жыць толькі для сябе і нічога не робяць бескарысліва. Але сёння хочацца напісаць усё ж аб добрым.

У Мінскую раённую бальніцу, дзе галоўным урачом працуе Жанна Міхайлаўна Качан, я наведалася напярэдадні Новага года (па старому стылю). Мы праведвалі хворую жанчыну — свякроў маёй знаёмай. Наш прыезд для старэнькай здаўся навагоднім падарункам. Яна цалавала рукі нам і ўрачу «хуткай дапамогі» Святлане Мяфодзьеўне. І наогул, у людзей у бальніцы было столькі радасці ад таго, што мы прыехалі, што ў іх ёсць магчымасць выказаць словы падзякі медыкам, якія тут працуюць. Я нават пашкадавала, што ў мяне няма з сабой фотаапарата: з такой любоўю і цеплынёй абняла на развітанне сястру Ніну Мікалаеўну Малафей хворая Лідзія Вікенцьеўна Стасевіч. А яе прыехалі праведаць якраз дзеці з Мінска. Яны з задавальненнем пацвердзілі, што ў гэтай бальніцы на самай справе праяўляюць клопаты аб хворых. Іх маці не першы раз лечыцца тут. Яна з вёскі Волкаўшчына, і калі дзеці прапанавалі ёй легчы ў гарадскую клініку, жанчына наадрэз адмовілася. «Тут адчуваеш сябе як дома. Жанна Міхайлаўна прыбягае часам па тры разы нават з дому. Добрае харчаванне. Усё, што ёсць у бальніцы, аддаюць хворым», — гаворыць яна. Яе дзеці дадаюць: «Добра было б пабудаваць сучасную бальніцу з навейшым абсталяваннем. Такое цудоўнае месца!»

Марыя Іванаўна Туромша паступіла ў аддзяленне ў цяжкім стане, са складаным дыягназам. А зараз ёй лепш. Яна цешыцца, што да яе прыехала нявестка. Яна называе яе дачушкай, ганарыцца тым, што яна медык, а з вачэй цякуць слёзы радасці: «Урач, Светачка, прыходзіць да мяне, як да малога дзіцятка, спытаецца, як справы, ну такая ўважлівая, у мяне не знаходзіцца слоў, каб выказаць усё...»

Глядзіш на гэтых хворых і думаеш: як нямнога трэба чалавеку часам для шчасця — каб яго разумелі, крышачку дабра, чаго нам так часам нестае.

Ад'язджалі мы адсюль з выдатным настроем па добра расчышчанай дарозе. Трэба аддаць належнае тым, хто паклапаціўся і пра гэта.

Нядаўна воляй лёсу мне давялося зноў наведацца ў 9-ю клінічную бальніцу. Настрой, вядома, падае заўсёды, калі штосьці здараецца з табой ці з блізкім табе чалавекам. На гэты раз я прыехала сюды з сынам Сярожам. І які цуд: я зноў сустрэлася тут з загадчыкам 4-га аддзялення неўралогіі Сяргеем Міхайлавічам Зубрыцкім. Ён прымаў цяжкахворага. Я не магу не напісаць пра гэтага медыка. Пазнаёмілася я з кнігай водгукаў і прапаноў. У ёй амаль усе запісы прасякнуты словамі падзякі ў адрас менавіта загадчыка аддзялення. «Сонейка нябеснае, доктар ад Бога, — так пачынае М. Басцюк. — Я схіляю галаву перад вамі. Няхай ваша ўсмешка, ваша добрае слова і сэрца дапамагаюць хворым. Вашы залатыя рукі робяць цуд». Так, вельмі многа цёплых слоў у адрас гэтага чалавека, яго калектыву. Прыемна бачыць і адчуваць людзей, якія любяць сваю прафесію. Яшчэ больш — калі яны поўныя пачуцця павагі і любові да людзей.

Мне хочацца спадзявацца, што ўсё ж мы будзем ставіцца добра адзін да аднаго, дзе б ні знаходзіліся і дзе б ні працавалі.

Няхай шануе ўсіх нас Бог!

**Жанна СКАВЫШ.**
*г. Мінск.*

**Ад аддзела пісьмаў**

*Гэтыя два пісьмы — на медыцынскую тэму, якая мае дачыненне да кожнага з нас. Ніхто не застрахаваны ад таго, што ў любы момант давядзецца звярнуцца да ўрача, а то і тэрмінова выклікаць «хуткую». На жаль, нярэдка бывае і так, што яна спазняецца ці аказваецца ўжо бескарыснай.*

*Менавіта з такога трагічнага выпадку пачынаецца і ліст А. Кодзіна з г. п. Узды. У тым, што на вуліцы, на вачах у многіх прахожых раптоўна памёр чалавек, аўтар абвінавачвае ўрача. Аднак такі папрок не зусім справядлівы і аб'ектыўны. Аб гэтым паведамілі ў рэдакцыі райгазеты, насупраць якой здарылася гэта няшчасце, а работнікі друкарні тут жа выклікалі «хуткую дапамогу».*

*«Яна прыбыла на месца здарэння праз лічаныя хвіліны, — пацвердзіў таксама галоўны ўрач райбальніцы Генадзь Рыгоравіч Зінавенка. — Аднак доктар нічога зрабіць ужо не мог: было позна... А вось праблемы сённяшняга стану медыцыны, якія ўзнімае Аляксей Мікалаевіч, у прыватнасці ўвядзенне платнай, слушныя, патрабуюць сур'ёзнай увагі і свайго вырашэння.*

*Так, усе мы, а перш-наперш хворыя, ведаем пра матэрыяльную і фінансавую беднасць нашых медустаноў. Але нават у такіх умовах ёсць нямала спецыялістаў у белых халатах, што лечаць людзей сваімі ведамі, вопытам, цудадзейнымі рукамі, а таксама чулымі, чалавечымі адносінамі. Як хацелася б, каб такіх сапраўдных майстроў нашага здароўя было намнога больш, чым ёсць іх зараз.*

**Матэрыялы падрыхтаваў да друку Іван БРАЛКА.**

АБМЯРКОЎВАЕМ ПРАЕКТ РЭФОРМЫ ШКОЛЫ

## ДАВАЙЦЕ ЛІЧЫЦЬ ГРОШЫ

25 студзеня 1996 года вы надрукавалі прапановы Міністэрства адукацыі па рэформе агульнаадукацыйнай школы.

Па-мойму, яна (рэформа) не ўлічвае будучыя адносіны чалавека і ўласнасці. Бо будзе, ды і ўжо ёсць, не 100 працэнтаў дзяржаўнай, а таксама прыватная і змешаная. А гэта падразумявае розныя крыніцы фінансавання сістэмы адукацыі. Што, у сваю чаргу, павінна накладваць пэўны адбітак на віды навучальных устаноў.

Навошта, напрыклад, у ПТВ рыхтаваць электрагазазваршчыка (за кошт падаткаплацельшчыкаў, г. зн. бюджэту) для прыватнага прадпрыемства, ды яшчэ 1—3 гады? Яго за свае грошы павінен падрыхтаваць уласнік. Толькі так.

І абавязкова трэба пераразмеркаваць тэрміны навучання на розных этапах. У сярэдняй школе частка дзяцей (дзве трэці) павінна вучыцца да 18 гадоў, другая частка (адна трэць) — да шаснаццаці. У ПТВ і ліцэі — адзін год, у каледжы — два гады, а ў вучэбным цэнтры і шасці месяцаў хопіць. І эканомія грошай, і перад арміяй юнак атрымае рабочую спецыяльнасць.

**Б. АТАМАНЧУК,**
**дырэктар Гомельскага вучэбнага цэнтра Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва.**

## СА ШКОЛЫ — У ІНСТЫТУТ. ЧАМУ Б І НЕ?..

Пасля завершанай дзесяцігодкі вучань павінен мець веды, неабходныя для жыцця, і — для паступлення ў ВНУ.

А ствараемая міністэрствам буферная зона: ПТВ (1—3 гады), ліцэй (2 гады), тэхнікум і каледж (3-4 гады) не павінна быць перашкодай паміж завершанай дзесяцігодкай і ВНУ. Што датычыць выбару, куды пайсці пасля дзесяцігодкі, то гэта права давайце пакінем за вучнем.

І яшчэ. З дапамогай лепшых настаўнікаў рэспублікі трэба распрацаваць новыя падыходы да арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу. У першую чаргу гэта датычыць яго асноўнай формы — урока. Існуючая практыка правядзення ўрока ў школе, яго структура адмоўна адбіваюцца на працаздольнасці дзяцей, іх цікавасці да вучобы і патрабуюць карэннай перабудовы.

Павінны мець права на існаванне і нестандартныя формы ўрока, такія, як урок-віктарына, урок-залік, урок-экскурсія, урок-гульня, урок-спектакль, урок-падарожжа, урок-спаборніцтва, урок-імправізацыя, урок-казка і многія іншыя.

І ў традыцыйны ўрок можна ўнесці штосьці новае, па-іншаму арганізуючы ўнутраную прастору класа, бо цяжка сядзець за партай у адным і тым жа становішчы па 5 і больш урокаў на працягу шасці дзён у тыдзень.

**Радзіён ШПЕЦ,**
вёска Гуркі, Шаркаўшчынскі раён.

## НОВАЙ БЕЛАРУСІ — НОВУЮ, ПОЛІТЭХНІЧНУЮ ШКОЛУ

Міністэрства адукацыі і навукі прапанавала чарговы варыянт рэфарміравання школы. На мой погляд, гэта не што іншае, як завуаліраванае «старое» ў горшым выкананні: замест 12 — 13-14-гадовае «заняволенне» дзяцей прафесіяй — без непасрэднага свабоднага выхаду на вытворчасць і, на здзіўленне, думаю, усіх — без доступу ў ВНУ. У аснове прапануемай мной мадэлі — агульнаадукацыйная політэхнічная 9-гадовая, у крайнім выпадку — 10-гадовая сярэдняя школа, карацей СПШ, або яшчэ прасцей — палішкола. Абавязковая, бясплатная кожнаму да 16 гадоў.

Лічу, што разам з гуманітарнымі ведамі трэба даваць элементарныя, самыя асноўныя, мінімальна неабходныя веды прадметаў політэхнічнага цыкла (праца, матэматыка, фізіка, хімія). Сувязь з жыццём і працай забяспечваецца унікальнай, універсальнай, міжнароднай мовай — палімовай.

Што такое палімова? Калі лаканічна і прадметна, дык гэта тэхнічны і просты малюнак, чарцёж, тэхніка акварэлі, элементы дызайну, мадэліравання, канструявання. Інакш — мова нашай працы, вытворчасці. (Падрабязна аб ёй гл. у «Настаўніцкай газеце» за 14.2.96 г.). Чаму да гэтага часу яе не ўводзілі і не ўводзяць? Ды па той прычыне, што самую галоўную частку палімовы — чарчэнне — як прадмет знішчылі ў сярэдняй школе.

Чаму прапаную навучанне пачынаць з 7, а не з 6 гадоў (як у праекце міністэрства)? На гэта наводзіць само жыццё, практыка, чарнобыльская «быль»: хуткая стамляльнасць, адсутнасць якасных, чыстых прадуктаў, галаўны боль, павышаная ўзбуджальнасць. Час дыктуе не пазбаўляць дзяцей дзяцінства і здароўя. Заключэнне медыкаў: навучанне з 7 гадоў дае 17 працэнтаў дзяцей, не гатовых да школы, а з 6 — 47 працэнтаў. Гэта кожны другі — патэнцыяльны другагоднік. Падумайце! Сарвецца малыш у вучобе — гэта траўма, страта цікавасці да ўсяго. Няхай лепш яшчэ год творыць сябе ў дзіцячым садзіку: лепіць, малюе, расфарбоўвае, мадэліруе, канструіруе, самафарміруецца. Развівае сваё вобразнае мысленне ў фарбах, фантазіруе.

Па схеме міністэрства («Звязда», 25.1.96) няма прамога свабоднага выхаду выпускнікоў сярэдняй школы з атэстатам сталасці (?) на вытворчасць або ў ВНУ. Лічу гэта ненармальным, неабгрунтаваным выпадам супраць правоў выпускніка. Выйшаў са школы — вырашай сам, куды ісці: прама на вытворчасць або па прафесію ў ВНУ, тэхнікум. Чаму дарога ў ВНУ толькі праз «сіта» іншых навучальных ўстаноў (праз элітную школу, ПТВ, тэхнікум)? Ці не спроба гэта закрыць доступ у ВНУ моладзі? Або спроба захаваць любымі сродкамі «плён» сваёй работы — памылкова створаныя аморфныя, неперспектыўныя навучальныя ўстановы? Захаваць раздутую кіраўніцкую структуру міністэрства?

.Прапаную ў схеме міністэрства апусціць усе прамежкавыя бар'еры на шляху ў ВНУ і сферы прафесіянальнай дзейнасці, пакінуўшы толькі тэхнікум, які будзе не толькі рыхтаваць сярэдняга спецыяліста, кваліфікаванага рабочага, але і прымаць экзамен на разрад у выпускнікоў экстэрнам.

Далей. У прафесіянальнай школе мэтазгодна, на мой погляд, мець толькі два тыпы навучальных устаноў: ВНУ і тэхнікум са ступенькамі росту ад простага, кваліфікаванага рабочага да спецыяліста сярэдняга звяна (тэхніка, медсястры, музработніка і г. д.). Лепшых, самых таленавітых — у ВПШ (вышэйшую палішколу) без экзаменаў.

Вучэбна-вытворчыя камбінаты, ПТВ, элітная школа (гімназіі, ліцэі, каледжы) не зарэкамендавалі сябе на практыцы, адцягваюць і паглынаюць дзяржаўныя сродкі, часам дубліруюць тэхнікумы.

Пра ПТВ. Яны ўзніклі тады, калі краіна мела вострую патрэбу ў кваліфікаваных рабочых, а тэхнікумаў і політэхнічнай школы не было — напрыклад, у гады Вялікай Айчыннай вайны. Зараз абстаноўка ў іх такая: слабая база, нізкая падрыхтоўка. Прысвоеныя імі разрады пераглядаюцца ў ВКК заводаў. Кадравікі заводаў адмаўляюць у прыёме пэтэвушнікаў, маўляў, сваіх, вопытных няма куды дзяваць.

Вучэбна-вытворчыя ж камбінаты спатрэбіліся для больш поўнага ахопу навучэнцаў школ працоўным навучаннем і выдачай разрадаў (у дапамогу ПТВ). Ні таго, ні другога ВВК не вырашылі, бяльмом на воку ў адукацыі былі. Нізкі ККД іх нікога не задавальняў. Яны самараспускаюцца.

Тэхнікумы — самае моцнае і, бадай, адзінае сярэдняе звяно сістэмы прафесіянальнай адукацыі. Спадзяюся, сетка іх будзе расшырана за кошт ПТВ з моцнай базай. Слабыя ПТВ, магчыма, перапрафіліруюцца ў СТТМ (станцыі тэхнічнай творчасці моладзі) — базу вынаходніцтва, інструмент маладзёжнай палітыкі.

Прапаную такую вось схему.

**Леў КІЗІЛА.**
*г. Мінск*

ПРАШУ ДАПАМОГІ

## ЗА ТАКУЮ ДАБАЎКУ ЗАЕДЗЕШ У РАЙЦЭНТР, А НАЗАД НЕ ВЕРНЕШСЯ

Я звяртаюся да вас вось з-за чаго. Мая пенсія з мая 1995 года па снежань уключна складала 274.800 рублёў, а за студзень 1996-га я атрымаў 277.700. Дык колькі ж, які працэнт мне дабавілі? Ці гэта насмешка, ці можа памылка якая?

Хацеў ехаць у Валожын, каб даведацца, у чым справа. Але падумаў: за 3000 можа і заеду, а вярнуцца дадому не будзе за што, ды і аўтобус дрэнна ходзіць. Вырашыў лепш вам пісьмо паслаць: так танней будзе — усяго 600 рублёў. Затое кошт газавага балона з 30.000 рублёў узняўся да 45.000. І хлеб пасля кожнага прывозу даражэе. Як нам жыць з такой пенсіяй? І жонцы таксама гэтак жа «значна» павысілі. Атрымлівала 238.000, а за студзень павысілі да 244.000 руб. На дваіх дабавілі ўсяго толькі 10.000. Крыўдна. У нашай вёсцы амаль усе пенсіянеры, але такой дабаўкі ні ў кога з іх няма. Некаторыя нам не вераць, гавораць, што гэта няпраўда. Прашу разабрацца: калі гэта памылка, дык няхай яе выправяць.

**Андрэй СТРУК,**
**пенсіянер в. Ганькавічы Валожынскага раёна.**

## НА АБОЧЫНЕ ЖЫЦЦЯ...

Згодна з прагнозам Гомельскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва, у гэтым годзе сюды звернуцца 17 тысяч чалавек.

Толькі ў першым квартале скарачэнні закрануць 141 прадпрыемства і арганізацыі абласнога цэнтра, у выніку чаго 2035 чалавек застануцца без работы. Асноўная прычына такога становішча — спад прамысловай вытворчасці.

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

*КАРЭСПАНДЭНТ ВЫЕХАЎ НА МЕСЦА*

# АЛЕРГІЯ

**НА СТАНЦЫЮ КАПЦЭВІЧЫ мяне прывяло пісьмо ў рэдакцыю «Звязды» настаўніка Аголіцкай базавай школы Нікадзіма Якаўлевіча Шлягі. Ён прасіў у газеты «дапамогі ў навядзенні справядлівасці», якая заключалася ў тым, каб вывесці на чыстую ваду і мясцовую міліцыю, і пракуратуру, куды ён неаднаразова звяртаўся з вуснымі і пісьмовымі заявамі, а «там лагодна ўсміхаліся ды лажылі пад сукно».., і Шурынкоў-настаўнікаў, якія «робяць што хочуць» (лупцуе, як кацянят, вучняў Шурынок-старэйшы, а яго сын вучыцца ў Брэсцкім пединстытуце восем гадоў, а характарыстыкі бярэ ў сабутэльніка — дырэктара Аголіцкай школы за хабар, а сам не працуе, знялі Шурынкі ў настаўніцкай тэлефон, захапілі паўгарода і да т. п.).**

Не вытрымаў усяго гэтага Нікадзім Якаўлевіч, як чалавек чэсны, справядлівы, крыштальна чысты і прынцыповы, і заявіў у пракуратуру. Вось тут і пачалося. З чым толькі не ганяўся за ім Шурынок — з нажом і малатком — і пагражаў забойствам. Дзякуй Богу, выратавалі ногі. А вось «чырвоны певень» дагнаў. У жніўні мінулага года згарэлі хлеў, пуня, карова, цялушка, два парсюкі, больш за тону жыта, шмат лесаматэрыялаў, іншага дабра больш як на сто мільёнаў рублёў.

Мы сядзім у кватэры Нікадзіма Якаўлевіча і, апавядаючы аб гэтым няшчасці, ён сціскае кулакі:

— Шурынок нашкодзіў — неабвержны факт. Я аб гэтым і ў міліцыі, і ў пракуратуры прама заяўляў. А там садзейнічалі злачынству, чакалі крыві і маёй смерці. Бо неаднойчы гэты бандыт Шурынок рабіў замахі на маё жыццё. Вось паслухайце і зрабіце такую ласку: распішыце гэтага нягодніка.

— А што ён за чалавек, Шурынок?

— Чалавек? — вочы Нікадзіма Якаўлевіча звузіліся. — Не, не чалавек ён, — звяруга. І сын яго Сяргей такі ж. І жонка, Святлана Раманаўна, яна таксама настаўніца. Дык вось. Аднойчы Шурынок-старэйшы (гэта было летам, у час канікулаў) злавіў мяне ў туалеце і ледзь не прыкончыў. Замахнуўся малатком, ды я галаву адхіліў убок, выбіў нагой дзве дошкі і шмарганўў прэч. А Святлана Раманаўна ўслед заверашчала: тыя дошкі табе на труну будуць!

Нікадзім Якаўлевіч паглядзеў на мяне, трохі падумаў і працягваў далей:

— А то было, што і з нажом за мной ганяўся, а аднойчы дык ажно два кіламетры за мной шпарыў на веласіпедзе. Ледзве ўцёк — ногі ў мяне хуткія. Таму, упэўнены я, пажар учыніў менавіта Шурынок. Каб адпомсціць мне за тую заяву ў пракуратуру і міліцыю. Праўда, там узбудзілі пасля дзве крымінальныя справы — па факту пагроз аб забойстве і падпалу маёй маёмасці. Ды ўсё спускаюць на тармазах. Бо Шурынок усіх падкупіў. Дарэчы, шляхам подкупу (у футра апрануў сяго-таго з універсітэта) ён атрымаў дыплом аб вышэйшай адукацыі. Калі не верыце, дакументальна што-нішто пацвердзіць магу.

Нікадзім Якаўлевіч схадзіў у другі пакой, прынёс газету «Физкультурник Белоруссии» за 28 красавіка 1989 года. У ёй апісваліся грубыя адносіны настаўніка фізкультуры Капцэвіцкай сярэдняй школы Уладзіміра Уладзіміравіча Шурынка да дзяцей, яго антыпедагагічныя ўчынкі, якія праявіліся ў рукапрыкладстве да некаторых вучняў. А ў адказе з абласной пракуратуры паведамлялася, што расследаванне па дзвюх крымінальных справах было праведзена не ў поўным аб'ёме і па заключэнню следчага ўпраўлення УУС аблвыканкома работнікі райаддзела ўнутраных спраў А. Маслаў, У. Фалееў і І. Швед, якія вялі расследаванне, пакараны ў дысцыплінарным парадку. Вусна Нікадзім Якаўлевіч паведаміў мне, што яшчэ раней па яго скаргах у Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі вымушаны быў пайсці з міліцыі ўчастковы, маёр Чэслаў Цірхановіч, а старшы лейтэнант Аляксандр Чарняўскі пераведзены на іншую службу і дадаў, што Шурынок разваліў усю работу ў школе па свайму прадмету, а яму за гэта прысвоілі першую катэгорыю настаўніка. Зноў той жа славуты подкуп.

— Калечыць дзіцячыя душы Шурынок, пагражае забіць мяне, падпаліў маю маёмасць, якая не была застрахавана, а пракуратура, міліцыя і райана патураюць яму. Дзе ж праўда? Чаму не прымаюцца меры? Чаму мая прынцыповасць чэснага чалавека разбіваецца аб чэрствыя душы бюракратаў і валакітчыкаў? — зрабіў заключэнне Нікадзім Якаўлевіч і яшчэ раз папрасіў мяне падысці да справы аб'ектыўна.

Іншых падыходаў у рабоце карэспандэнта быць не можа, і таму я крок за крокам высвятляў ісціну у размове з многімі работнікамі школы, райана, сельсавета, міліцыі, пракуратуры, бальніцы, упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома, занатоўваў у свой блакнот выпіскі з афіцыйных крыніц. І зараз скажу наступнае.

Так, Нікадзіму Якаўлевічу шчыра спачуваю ў тым, што яго гаспадарка панесла такія вялікія страты, і здзіўляюся, што такога шкадавання не ўбачыў і не пачуў у многіх палешукоў, якія адрозніваюцца спагадай, імкненнем дапамагчы пацярпеўшаму, і асабліва пагарэльцу. Можа, гэта бацылы чэрстваcці ці простага нежадання працягнуць чалавеку руку з-за сваіх шматлікіх і бясконцых жыццёвых цяжкасцей і праблем? Я доўга думаў аб гэтым і прыйшоў да высновы: не, тут зусім іншая прычына. Якая? Алергія. Алергія многіх людзей да Нікадзіма Якаўлевіча Шлягі. Як да чалавека і настаўніка.

Не будзе сакрэтам, калі скажу: аўтарытэт кожнага з нас і павага, адпаведна, прыходзяць не самі па сабе. Яны заваёўваюцца ўсімі паводзінамі і ўчынкамі чалавека. А калі ён яшчэ і настаўнік у вёсцы, выхавацель, інтэлігент, дык да яго ўвага людзей, і асабліва сяльчан, заўсёды павышаная. Так было раней, так яно ёсць і зараз.

І тут, з першага погляду, можна было паверыць Нікадзіму Якаўлевічу (яшчэ не паслухаўшы іншых людзей), што ён змагаецца за чысціню настаўніцкіх радоў, за высокі аўтарытэт выхавацеля падрастаючага пакалення. Сапраўды, і сам Уладзімір Уладзіміравіч Шурынок, і яго сын Сяргей заплямілі сябе, бо некаторыя факты, аб якіх расказваў мне Шляга, мелі месца. Больш таго, летась у клубе Сяргей учыніў бойку і адлупцаваў на вачах у моладзі сваю былую жонку Таццяну Яўлоеву, а калі за яе заступіліся, дык кінуўся і на іншых. Праўда, тады яму і самому дасталося.

Аднак, як гаворыцца, чыстую справу трэба рабіць чыстымі рукамі і з чыстым сумленнем. І з гэтага пункту гледжання я разумею ўжо і Уладзіміра Уладзіміравіча Шурынка, калі ён, прызнаўшы свае і сынавы памылкі і непрыгожыя ўчынкі, казаў:

— А вы паглядзіце, хто такі Шляга. Паклёпнік, якіх свет не бачыў. На каго ён толькі не пісаў і каго не выводзіў на «чыстую ваду»! Амаральны тып, біў вучняў, п'яным на ўрокі прыходзіў, валяўся на вуліцы. Ды з ім жа ніхто працаваць не хоча. Ніхто добрага слова пра яго не скажа.

Прызнацца, спачатку я не паверыў гэтым словам, бо Шляга гаварыў са мной вельмі ўпэўненым тонам, пераканаўча і нічым не выклікаў сумнення. Таму перапытаў:

— А не нагаворваеце вы на яго?

— Праверыць няцяжка, — быў адказ.

Праверыў, і выявілася даволі цікавая і непрыгожая гісторыя.

Мінулым летам загадчыцы райана Гросвальд пазваніла прыбіральшчыца Агаліцка-Руднянскай пачатковай школы Алена Адамаўна Габрусь і слёзна папрасіла яе не прысылаць на працу Нікадзіма Якаўлевіча Шлягу, бо па вёсцы пайшла такая пагалоска. Лілія Міхайлаўна нават не стала распытваць яе, чаму ж жанчына, у абавязкі якой уваходзіць «падмесці-памыць», выступае супраць Шлягі. Бо добра памятала, што ў свой час, не вытрымаўшы «смелых» педагагічных прыёмаў і эксперыментаў настаўніка Шлягі, якія заключаліся ў спазненнях на ўрокі і капітальных выпіўках, пасля чаго ён п'яны валяўся на падлозе, а вучні бегалі і палівалі яго вадой, прыбіральшчыца даслала пісьмо ў райана, у якім прасіла ўбраць яго са школы, бо ён з'яўляецца пасмешышчам на ўсю вёску. Праверылі, убралі, перавялі ў іншую школу. Думаеце, Нікадзім Якаўлевіч зрабіў вывады? Ды не. Калі ён працаваў у Капцэвіцкай сярэдняй школе, яго фантазіям не было канца. Праглядваю дакументальныя даныя ў райана і школе і дзіву даюся: чаму мог навучыць дзетак Нікадзім Якаўлевіч?

Вось ён з'явіўся п'яным на першы па раскладу ўрок матэматыкі і не змог правесці яго. Дзесяцікласнікі пад рукі адвялі настаўніка дадому і паклалі спаць. Вось ужо ў другі раз сярод белага дня дабіраўся пасля выпіўкі дадому і каля школьнай агароджы ўпаў і не змог падняцца на ногі. На вуліцы ў гэты час было многа людзей, бегалі на перапынку дзеці, якія дзеля смеху станавіліся на карачкі побач з настаўнікам і паказвалі, як ён носам «арэ» зямлю. Сказалі аб гэтым яго жонцы Валянціне Сцяпанаўне, таксама настаўніцы, але яна адмовілася (відаць, ад сораму) ісці па яго. На вачах у людзей, як засведчана ў акце, Шлягу ўзваліў на плечы яго сусед і, згінаючыся, панёс дадому.

Нельга абысці ўвагай і наступныя факты. Сямікласніка Валодзю Чучнанскага Нікадзім Якаўлевіч ударыў па вуху і выгнаў з класа з урока геаметрыі за тое, што той павярнуўся да другога вучня. Валодзя напісаў скаргу аб гэтым дырэктару школы, а адна маці — Валянціна Патапава — заявіла дырэктару: Шляга ў злосці круціў за вуха яе сына так, што на каўнерыку сарочкі была кроў, а рана ў хлапчука на вуху доўга не загойвалася.

Калі ж Нікадзім Якаўлевіч зразумеў, што гэтыя два выпадкі тояць у сабе небяспеку для яго, ён пачаў весці «індывідуальную выхаваўчую» работу з вучнямі. Па аднаму ўгаворваў іх (нават хадзіў па дамах), каб яны казалі, што нікому ён вушы не круціў. Ды толькі большая частка іх у маральным плане аказалася вышэй за свайго настаўніка: яны адмовіліся гаварыць няпраўду. Мяркую, не лішнім будзе зазначыць тут, што вышэйпамянёныя дзікія (іншага слова я не знаходжу) выхадкі Нікадзіма Якаўлевіча ўсё ж не перашкодзілі яму напісаць скаргу ў рэспубліканскую пракуратуру на тое, што Шурынок збіваў вучняў. Вось так.

У чытача, мяркую, ужо ўзнікла пытанне: а што, на Шлягу не было ўправы? Была. Яго паводзіны разглядаліся на педсаветах, у райана. Яго двойчы звальнялі з работы, вядома ж, не па ўласнаму жаданню. І тады ён выпрацаваў сваю тактыку, якая, як гэта ні дзіўна, прыносіла яму поспех. А менавіта, не пускаў у школу трох сваіх сыноў, якія, як і ён сам, пісалі ў самыя высокія інстанцыі, што яны ўпяцярых сядзяць галодныя, бо адной зарплаты маці не хапае, скардзіліся на тое, што ў школе, маўляў, запушчаны вучэбна-выхаваўчы працэс і г. д., і да т. п. Вядома ж, ехалі камісіі з праверкамі. Валянцін Іванавіч Дубік, які зараз працуе старшынёй сельсавета, напрыклад, расказаў мне, што ў бытнасць яго дырэктарам усё той жа Капцэвіцкай школы ён для цікавасці завёў журнал скаргаў Шлягі па самых розных пытаннях у самыя розныя інстанцыі, уключаючы ЦК КПСС, і параіў зазірнуць у яго. Хочаце верце, хочаце не, але за пяць гадоў там зафіксавана ...121 (сто дваццаць адна!) скарга Нікадзіма Якаўлевіча.

— Гэта далёка не ўсе «сігналы» Шлягі, — гаварылі мне былы і цяперашні загадчыкі райана Міхаіл Іларыёнавіч Краўчанка і Лілія Міхайлаўна Гросвальд. — Пісаў ён скаргі і на нас, і на тых правяраючых, якія ў нечым пярэчылі яму, і на работнікаў іншых школ. А дырэктар Капцэвіцкай СШ Раіса Цімафееўна Беластоцкая прызналася:

— Сорамна казаць, але калі ў нас працаваў Шляга, многія настаўнікі развучыліся смяяцца, бо на душы было цяжка ад таго, што намі адна за адной займаліся камісіі. І нарэшце, калі ў каторы ўжо раз Шляга паставіў пытанне перад адной высокай інстанцыяй зноў вярнуцца ў нашу школу, мы катэгарычна заявілі: на работу не выйдзем. Тады яго перавялі ў іншую школу.

А Лілія Міхайлаўна дадала, што і ў Аголіцкай базавай школе, куды яна дала накіраванне на працу Шлягу, калектыў не дапускаў яго на работу ажно дзесяць дзён і работнікам райана давялося ўгаворваць настаўнікаў прыняць яго, бо ён ...зноў можа напісаць чарговую скаргу. Дарэчы, у гэтай школе ўжо змяняецца трэці па ліку дырэктар, і туды ніхто не хоча ісці кіраўніком. І тады Нікадзім Якаўлевіч прапанаваў загадчыцы райана дырэктарам паставіць... яго. Не згадзілася і накіравала на гэту пасаду маладога настаўніка, які, вядома ж, Нікадзіму Якаўлевічу прыйшоўся не даспадобы.

Я спытаў у Ліліі Міхайлаўны, за якія такія заслугі Шурынок-старэйшы атэставаны першай катэгорыяй? І пачуў: гэта — фантазіі Шлягі. Як, дарэчы, і ў іншых пытаннях. А яшчэ я папрасіў яе паказаць працоўную кніжку Нікадзіма Якаўлевіча. У ёй трыццаць адзін запіс аб прыёмах, звальненнях, перамяшчэннях па рабоце і... ніводнай падзякі. А між тым працоўны стаж у чалавека — сорак гадоў. Вам, паважаны чытач, аб чым-небудзь гэта гаворыць?

Вядома, пажар у сядзібе Шлягі — здарэнне надзвычайнае. І шукаць зламысніка трэба. Але, як зазначыў у гутарцы са мной сам Нікадзім Якаўлевіч, у Капцэвічах і раней гарэлі розныя прыбудовы, а вось вінаватых не знаходзілі, як і ў гэтым канкрэтным выпадку.

— Мы ўжо збіліся з ног, — расказваюць работнікі міліцыі. — Па некалькі разоў апыталі людзей. Магчыма, каму-нікаму з нас і не хапае прафесіянальнага майстэрства, а магчыма, і сам Нікадзім Якаўлевіч нешта не дагледзеў. Бо адзін са сведкаў — электрык Валянцін Барташэвіч — сцвярджае, што электраправодка ў хляве Шлягі была ў вельмі дрэнным стане.

А па заяве Нікадзіма Якаўлевіча аб пагрозах Шурынка пазбавіць яго жыцця акрамя міліцыі праверку рабіла і раённая пракуратура, работнік якой Уладзімір Васільевіч Сямёнаў расказаў мне, што наколькі ўпэўнена настойвае на сваім Шляга, настолькі ж не менш упэўнена адбівае яго падазрэнні Шурынок. Паказанні ж сведак Шлягі — былой нявесткі Шурынка-старэйшага, якая з прычыны скасавання шлюбу з яго сынам стала вельмі непрыязна адносіцца да іхняй сям'і, і яе сяброўкі — нельга прымаць пад увагу, бо яны не знаходзяць пацвярджэння ў іншых сведак.

Між тым, Нікадзім Якаўлевіч не пакідае ў спакоі вышэйшыя інстанцыі міліцыі і пракуратуры і з тае прычыны, што на месцы адпаведныя органы не могуць дакапацца да ісціны, каму-нікаму з іх работнікаў і даюць па шапцы.

«Вайна» лакальнага значэння паміж дзвюма сем'ямі сельскіх настаўнікаў працягваецца ўжо больш за пятнаццаць гадоў. А жывуць жа яны пад адным дахам у чатырохкватэрным доміку: Шурынкі — на другім, Шлягі — на першым паверсе. З самага засялення дома мужыкі нешта не падзялілі, і найшла каса на камень. Так і хочацца сказаць ім: «Нікадзім Якаўлевіч і Уладзімір Уладзіміравіч, калі хто-небудзь з вас і не мае рацыі — працягніце адзін аднаму рукі, забудзьце ўсе крыўды, не лічыце адзін аднаго ворагамі. Жыццё ж вельмі кароткае, каб транжырыць яго на канфлікты.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*Петрыкаўскі раён.*

**P. S. У камандзіроўцы, прызнаюся, мяне шкадавалі і папярэджвалі паводзіць сябе з Нікадзімам Якаўлевічам цішэй вады, ніжэй травы. Маўляў, не чапай яго, бо ў адваротным выпадку станеш ворагам. А супраць ворага ў Шлягі — адпрацаваны прыём: скарга, якую ён адрасуе галоўнаму рэдактару ці Прэзідэнту. Няўжо палешукі не памыляюцца хоць на гэты раз?**

## ДЭПРЭСІЯ СТРАШНЕЙ ЗА ЗАБОЙЦАЎ

**Віцебская вобласць прэтэндуе на захаванне лідэрства па колькасці самазабойстваў.**

Паводле даных аблстатупраўлення, у мінулым годзе з жыццём добраахвотна развіталіся 630 жыхароў Прыдзвіння. Гэта на трэць больш, чым было пяць гадоў назад (418 выпадкаў). І ўтрая больш, чым колькасць ахвяр наўмысных забойстваў (203 выпадкі). Чаму жыхары самай паўночнай вобласці Беларусі так ставяцца да свайго жыцця — пытанне, бадай, не толькі да ўрачоў, але і эканамістаў. Сярэдняя заработная плата тут пастаянна ніжэйшая за рэспубліканскія лічбы.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

## АБАКРАЛІ БЕСПРАЦОЎНЫХ

**У Бярозаўскім раённым цэнтры занятасці насельніцтва стаіць на ўліку каля адной тысячы беспрацоўных. Кожны дзень сюды звяртаюцца па пытаннях працаўладкавання каля 60 чалавек.**

Няўцям было супрацоўнікам цэнтра, чаго гэта зачасцілі сюды двое маладых беспрацоўных. Б. і К., 22 і 25 гадоў. Але іх цікавасць была зусім іншая, чым астатніх людзей, якія аказаліся ў складаным матэрыяльным становішчы. Б. і К. вырашылі разбагацець за адну ноч і ўкралі камп'ютэр, які захоўваў інфармацыю аб усіх беспрацоўных раёна, магчымасці працаўладкавання ў наш складаны час.

Супрацоўнікам міліцыі спатрэбіліся лічаныя гадзіны, каб выкрыць зладзеяў.

**Людміла ГІЛЁВА.**

# «АЎТО» ДЛЯ БЕЛАРУСА: ЖЫЦЦЁ, НАДЗЕІ, ЛЕТУЦЕННІ

**«Аўтамабіль не раскоша, а сродак перамяшчэння», — казаў некалі славуты літаратурны герой і... памыляўся. Прынамсі, у адносінах да сучасных рэалій. Гэты цуд цывілізацыі ператварыўся зараз нават не ў раскошу, а ў своеасаблівы сродак укладання грошай, гэткую «валюту» на чатырох колах. Набыў старое «аўто», падрамантаваў, падфарбаваў крыху — прадаў даражэй. Зноў купіў, праз нейкі час прадаў і гэтак далей. Сапраўдным бізнесам стаў і перагон аўтамабіляў з іншых краін. Словам, «жалезны конь» як, напэўна, ніколі раней дае працу вялікай колькасці нашых суайчыннікаў. Бадай, толькі адзінкі ставяцца да свайго аўтамабіля як да будзённага сродку перамяшчэння. На вёсцы, ды і ў горадзе гэта найпершая «працоўная сіла»: і бульбу падвязе, і капусту з дачы, і сваякоў вялікі натоўп пасля вяселля развязе. Ды што там мяса-сала! Па Партызанскім праспекце аднойчы праехаў старэнькі «Масквіч», увесь салон якога, акрамя месца вадзіцеля, быў забіты...сенам! Без такога памочніка цяжка і селяніну, і гараджаніну, і «новаму беларусу». Аб ім клапоцяцца, бывае, аддаюць апошнія грошы на рамонт — абы толькі бегаў спраўна. Для многіх, асабліва тых, каму новае аўто зараз не па кішэні, «матор» азначае жыццё...**

## ЯК «САСВАТАЛІ» Ў «ВОЛЬГІ» СТОМІЛЬЁННУЮ «ШКОДУ»

**За мінулы год ДАІ Віцебскай вобласці зарэгістравала 24.357 новых уладальнікаў легкавых машын.**

Канешне, большая іх частка абзавялася зусім не новымі «аўто», а патрыманымі, больш танныя. Бо, напрыклад, новая «Шкода», што была выстаўлена фірмай «Пушэ-Віцебск» у сярэдзіне лютага ў зале толькі што адчыненага гандлёвага дома «Вольга» ўражвала гараджан сваім коштам: 116—120 млн. беларускіх рублёў. Не шмат адставалі ад іх і расійскія «Жыгулі». «ВАЗ-2107» прапаноўвалі набыць за 88 млн., а «ВАЗ-21099» — за 108,3 млн. рублёў. Нават непрывабны іжаўскі «Масквіч» («каблучок») у магазіне «Аўтазапчасткі», што на ўскраіне Віцебска, патрабаваў ад радавога беларуса з сярэднестатыстычным заробкам ў 1 млн. рублёў 69 месяцаў напружанай працы толькі на яго набыццё.

Сёння ў мясцовай газеце аб'яў «Прок» віцябляне штотыдзень могуць знайсці 60—70 прапаноў аб продажы патрыманых легкавікоў. Але, мяркуючы па суседнім раздзеле «Куплю» колькасць тых, хто мае свабодныя сродкі на аўтамабіль, у дзесяць разоў меншая.

Не шмат пакупнікоў і на рэчавым рынку — мясцовым стадыёне «Дынама». Дарэчы, Віцебск апошнім сярод абласных цэнтраў краіны адчыняе з сакавіка спецыялізаваны аўтарынак. Яго наведвальнікам не прыйдзецца мясіць тут гразь, таму што пад яго пераходзяць два з трох гектараў асфальтаванай пляцоўкі, якія належаць зараз платнай стаянцы.

Што тычыцца іншых цэн на аўтамабілі ў горадзе, дык яны наступныя. Так «Жыгулі» ў залежнасці ад ступені зносу можна набыць: «першую мадэль» — за 1,5—2 тысячы долараў, другую (пікап) — за 2,5 тысячы, «тройку» — за 1,5—2,5 тысячы, «чацвёрку» — за 3—7,5 тысячы, пятую і шостую мадэлі — за 2—6,5 тысячы, сёмую і восьмую — за 3—7,5 тысячы, «дзевятку» — за 4—8 тысяч долараў ЗША. «ВАЗ—21099» ідзе за 6,5—10 тысяч, «Масквіч-412» за 1—3 тысячы долараў, «Волгі» — ад 2 да 10 тысяч. «Запарожац» пры жаданні можна знайсці за 300—800 «зялёных». З замежных машын «Фольксвагены» ідуць па цане з 3,5—5 тысяч долараў, патрыманы «Мерседэс-200» — 2,5—5 тысяч, «БМВ» трэцяй серыі — 2—6,5 тысяч долараў.

Мяркуючы па тым, што летась колькасць аўтаўладальнікаў павялічылася ў Віцебскай вобласці на 9 тысяч чалавек, закрыццё новаму рынку не пагражае. Дарэчы, «Шкоду» з гандлёвага дома за 120 млн. рублёў расіяне звезлі ўжо праз тыдзень.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

## ДЫК ЯК ЖА БУДУЦЬ МЯНЯЦЬ НУМАРНЫЯ ЗНАКІ?

**Інфармацыя аб замене старых аўтамабільных нумарных знакаў новымі ўзорамі, нягледзячы на шматлікія паведамленні ў друку, не дадала яснасці большасці беларускіх аўтамабілістаў. Да таго ж, як высветлілася пазней, у некаторых сродках масавай інфармацыі называліся скажоныя лічбы кошту гэтай працэдуры. З просьбай даць дакладныя тлумачэнні наконт гэтага карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да старшага інспектара па асобых даручэннях упраўлення Дзяржаўтаінспекцыі МУС Беларусі Ігара ЯСКАЎЦА.**

Аказалася, што нумарныя знакі будуць мяняць толькі пад час правядзення тэхагляду. Гэта значыць, што нехта атрымае новыя знакі ўжо ў гэтым годзе, нехта — у наступным. Зразумела, іх можна змяніць па асабістаму жаданню датэрмінова. Змене падлягаюць нумары з белымі сімваламі на чорным фоне (для Мінска, напрыклад, гэта серыі МІХ, МІЖ, МІЕ) і іншыя, а таксама з жоўтым фонам, якіх, дарэчы, засталіся адзінкі. Будуць зменены і нумарныя знакі, якія выдаваліся на спецыяльныя легкавыя аўтамабілі (тэхдапамога, аварыйная, ветдапамога і г. д.), дзе літары ідуць перад лічбамі. Для Брэсцкай вобласці гэта серыя БНС, Віцебскай — ВТС, Гомельскай — ГСС, Гродзенскай — ГКС, г. Мінска — МІС, Мінскай вобласці — МБС, Магілёўскай — МГС. Для Мінска сюды яшчэ далучаецца серыя ОЛМ (нумары якой выдаваліся да Алімпійскіх гульняў 1980 года).

Стаўкі збораў за змену нумарных знакаў узгоднены з міністэрствамі фінансаў і эканомікі і з 13 лютага бягучага года складаюць: за чырвоныя нумары, пакрытыя звычайнай плёнкай, — 170 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы; за нумары са святлоадбівальнай плёнкай — 300 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы. Пры замене звычайна будуць выдавацца больш танныя знакі, даражэйшыя можна будзе ўстанавіць па ўласнаму жаданню. Пры змене знакаў па жаданню ўладальніка аўтамабіля запіс аб гэтым робіцца ў старым тэхпашпарце без яго замены. Каштаваць гэта будзе 20 тысяч рублёў. Дарэчы, як паведаміў Ігар Яскавец, для інвалідаў, якія атрымалі свае аўтамабілі бясплатна праз органы сацыяльнай абароны, змена знакаў будзе праводзіцца без аплаты з іх боку. Суму ў 20 тысяч рублёў трэба будзе заплаціць толькі за адпаведны запіс у тэхпашпарце.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЖАДАННЕ НАБЫЦЬ АЎТАМАБІЛЬ НЕ ЗАЎСЁДЫ СУПАДАЕ З МАГЧЫМАСЦЯМІ

**Якіх толькі аўтамабіляў не ўбачыш на гомельскіх аўтарынках. Ствараецца ўражанне, што знаходзішся на выстаўцы, у якой прымаюць удзел практычна ўсе самыя вядомыя фірмы, уключаючы «Таёту», «Хонду», «Мерседэс», «Фольксваген», «Рэно», «Опель», а таксама былыя савецкія, пачынаючы з ВАЗа і заканчваючы «Запарожцам», якія можна набыць за 200$, і нават тут жа на ім паехаць.**

Але ў цэлым цэны ў свабодна канверсуемай валюце ў большасці сваёй, па сцвярджэнню знатакоў, залежаць не столькі ад маркі аўтамабіля, колькі ад года яго выпуску, краіны, дзе ён раней эксплуатаваўся, і прабегу (хоць дзве апошнія характарыстыкі вельмі ўмоўныя). Так, параўнальна новы (1988 г.) «Фольксваген-Джэта» ацэньваецца ў 5200$, а вішнёвага колеру «ВАЗ-2109» — у 5500—6000$ «зялёных». Крыху менш (4600—4800$) каштуе «васьмёрка», а зусім прыстойнага выгляду «Жыгулі» можна набыць за 2000—2200$ «баксаў». Калі ў вас ёсць грошы, за 3500—4500$ вам прапануюць «Фольксваген-Гольф 2» ці «Форд-Эскорт-Арыён».

Тым, у каго няма вялікага «залатога запасу», але ёсць жаданне набыць аўтамабіль можна спыніцца на «Масквічы» або «ІЖ» за 1000—1500 «зялёных». Вельмі прывабны і «РАФ» выпуску 1986 года за 1800$.

А калі вы ўсё ж набылі аўтамабіль, рыхтуйцеся да таго, што і за запчасткі да яго прыйдзецца вылажыць нямала. Новы мост «Масквіча» ацэньваецца ў 300$, акумулятар — мінімум ў 500 тысяч, «гума» — 400—800 тысяч, фільтр маслены — 50 тысяч, пас вентылятарны — 20 тысяч беларускіх рублёў.

Таму самы час успомніць тост: «Дык вып'ем жа за тое, каб нашы жаданні супадалі з нашымі магчымасцямі».

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

## ФЕРМЕРУ БЕЗ ТЭХНІКІ НІЯК, АЛЕ ЯК ЯЕ НАБЫЦЬ?

**За апошнія 5 гадоў горацкія фермеры не набылі ніводнай новай самаходнай машыны. У той жа час у прыватным карыстанні сёння знаходзіцца 248 трактароў, у тым ліку і 10 самаробных, 25 прычэпаў:, неабходная колькасць прычапных і навясных прылад, ёсць грузавыя аўтамабілі.**

Уся гэта цяглавая сіла, як паведаміў дзяржаўны інспектар Дзяржтэхнагляду Мікалай Шакуноў, куплена ў гады яе масавага «разбазарвання».

Сёння на новую машыну прыватніку спадзявацца не прыходзіцца — яна яму проста не па кішэні. Трактар «Беларусь», напрыклад, каштуе 100—110 млн. рублёў. Недаступныя і запасныя часткі, якія ёсць у спецыяльным магазіне райсельгастэхнікі ў дастатку.

Але прыватнік наш не толькі эканомны, але і вынаходлівы. Карыстаючыся адкрытымі межамі, ён наладзіў цесныя кантакты з расійскімі фермерамі, гаспадаркі якіх пасля непрацяглага росквіту поўнасцю разарыліся, а гэта азначае, што з малатка і танна распрадаецца ў расход уся рухомая і нерухомая маёмасць.

**Міхаіл УЛАСЕНКА.**

## КАЛІ НЕ ХОЧАШ АДДАЦЬ ГРОШЫ ЗА ХЛАМ

**Дзе лепш купіць «аўто»? Перш чым адказаць на пытанне, спачатку зазірніце ў кашалёк. Можна самому за мяжу з'ездзіць, можна купіць на рынку, а можна і ў прадпрыемства (мытная пошліна плюс НДС плюс акцыз).**

Да жніўня 1995 года машыны перавозіліся праз мяжу ў вялікай колькасці. Увозілі хто мог і колькі мог. Плаціў пошліну (яна была роўная калісьці 10 цэнтам за адзін кубічны сантыметр аб'ёму рухавіка), яшчэ крыху ў ДАІ за нумары, потым прадаваў і пры жаданні — хоць заўтра зноў за мяжу рэспублікі, ужо маючы свайго наступнага пакупніка. І, як ні дзіўна ў наш час, задаволены былі і пакупнік, і прадавец (перапрадавец).

Прывядзенне беларускага мытнага заканадаўства ў адпаведнасць з расійскім гэты бізнес фактычна «забіла». Нягледзячы на год выпуску аўтамабіля плаціць даводзілася 5 ЭКЮ за 1 куб. см аб'ёму рухавіка. Пошліна нярэдка перавышала цану аўтамабіля. Пастановай Кабінета Міністраў № 18 ад 10 студзеня ўрад унёс змяненне ў правілы ўвозу ў Рэспубліку Беларусь транспартных сродкаў замежнай вытворчасці фізічнымі асобамі. Цяпер грамадзянін Беларусі на працягу аднаго каляндарнага года можа прывезці сабе адну іншамарку з аплатай мытнай пошліны 0,3 ЭКЮ ( 0,4$ ЗША) за 1 куб. см аб'ёму рухавіка, але без права адчужэння гэтага «аўто» і перадачы ў карыстанне іншым асобам (акрамя членаў сям'і) на працягу двух гадоў. Галоўнае, з'ездзіць па яго ён можа толькі сам, інакш застаецца ў сіле пошліна ў памеры 5 ЭКЮ за 1 см куб. аб'ёму рухавіка.

Машыны расійскай вытворчасці ўвозяцца на ранейшых умовах: грамадзянам дазволена бяспошлінна перавезці праз мяжу адну машыну на працягу каляндарнага года без права адчужэння і перадачы ў карыстанне іншым асобам на працягу двух гадоў (акрамя членаў сям'і).

Так што выгадней купіць машыну для сябе зараз за мяжой, калі, вядома, у іх разбіраешся, пазбегнуць выдаткаў на прадаўца, а то, незнарок, аддасі грошы, хоць і невялікія, але за хлам...

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ.**

# НАБЫЦЬ «АЎТО»: І ГРОШЫ, І КЛОПАТ НЕМАЛЫЯ

**Кожны дзесяты жыхар Пухавіцкага раёна мае ўласны аўтамабіль. А самым насычаным па колькасці прыватнага аўтатранспарту лічыцца горад Мар'іна Горка, у састаў якой апошнім часам увайшоў і ваенны гарадок. Нездарма кожны сёмы гараджанін — аўтааматар. Але наяўнасць «Жыгулёў» ці «Масквіча», «Вольва» ці «Аўдзі» не сведчыць аб бесклапотным жыцці іх уладальнікаў.**

Як вядома; машыны маюць вельмі нядобрую звычку псавацца. Тады ўвесь вольны час вадзіцелі аддаюць пошуку запчастак і рамонту. Добра таму, хто мае «Жыгулі». У Мар'інай Горцы чатыры гады таму адчыніўся спецыялізаваны магазін «АўтаВАЗзапчасткі», які ў поўным сэнсе слова завалены таварам. Аб папулярнасці гэтай гандлёвай кропкі сведчаць прыезды пакупнікоў з Мінска, Брэста, а таксама з Расіі і Прыбалтыкі. Прамыя пастаўкі запчастак пры невялікіх гандлёвых надбаўках вабяць сюды вадзіцеляў. Напрыклад, рухавік для «васьмёркі» тут каштуе 11 млн. 560 тысяч рублёў, задні мост — 3 млн. 146 тысяч , каробка перадач — 3 млн. 500 тысяч, крылы — па 210 тысяч, колы — 450 тысяч, імпартныя акумулятары — 540 тысяч рублёў.

У зімовы час попыт на запчасткі меншы, таму за студзень тавараабарот склаў 52 млн. рублёў, што ніжэй, чым звычайна, разы ў тры. Другое месца, куды накіроўваюцца аўтааматары па запчасткі і рамонт, — станцыя тэхнічнага абслугоўвання «Мар'іна Горка», пры якой працуе і магазін. Уладальнікі «Жыгулёў» рэдка заглядваюць сюды з-за больш высокіх цэн. Напрыклад, колы каштуюць 551 тысяча 200 рублёў, акумулятары — 624 тысячы, рулявая калонка для «Масквіча» — 2 мільёны 330 тысяч. На станцыі робяць і розныя віды рамонту,уключаючы рамонт рухавіка. Афарбоўка машыны абыдзецца каля 1 млн. 200 тысяч, шліфоўка каленвалаў, напрыклад, каштуе для прыватнікаў — 312 тысяч, для дзяржустаноў 740 тысяч рублёў. А вось адрамантаваць іншамарку едуць толькі да прыватных майстроў, якія ў рэкламе не маюць патрэбы. Дэталі можна набыць і ў магазіне на аўтазаправачнай станцыі на трасе Мінск—Гомель. Выбар запчастак тут меншы, але месца бойкае, таму і гандаль ідзе адпаведна.

Пакуль уладальнікі машын вырашаюць праблему рамонту, тыя, хто пакуль не маюць свайго аўтатранспарту, накіроўваюцца на мінскія аўтарынкі, бо ў раёне такіх няма. Праўда, ёсць хлопцы, якія ганяюць машыны з заходніх краін, і з імі можна дамовіцца наконт патрэбнай вам маркі. Не так часта ў раёне прадаюць і грузавыя машыны, хаця ў жыхароў налічваецца 112 прыватных грузавых «аўто». А «МТЗ-80», дарэчы, тут прапаноўваюць зараз за 4 тысячы долараў. Адным словам, быць уладальнікам свайго транспарту зараз дарагая раскоша.

**Аліна ГРЫШКЕВІЧ.**

*ТЭЛЕФОН ДАВЕРУ*

# НА ДУШЫ СКРАБУЦЬ КОШКІ...

**Сёння будзе такі ж дзень, што і ўчора. Прымушаеш сябе ўзняцца і як звычайна падыходзіш да акна. Зноў холадна, змрочна. І ніякага жадання бачыць сябе поўным надзей чалавекам. Учора ранкам на стале гэтак жа ляжалі недапісаныя аркушы дзённіка ўражанняў. За ўчарашні дзень там не прыбавілася слоў. Бялюткасць гэтых аркушаў кранае сумленне сваёй пустатой і бессэнсоўнасцю. Разам з хвілінамі знікаюць і ненапісаныя радкі, магчыма, лепшыя... Стоп! Як лёгка мы здаёмся. У які раз імкнёмся знайсці апраўданне сваёй дэпрэсіі. Як жа з такім настроем сустракаць вясну?**

**Патрэбны нумар адразу адазваўся роўным голасам — добра, што існуе служба даверу, ёсць з кім параіцца, растлумачыць свой стан.**

— Канешне, усе мы чакаем, што вясна ўнясе ў наша жыццё свежы струмень, а разам з прыродай адраджацца будуць і людзі. Але менавіта ў гэты час у многіх назіраецца ўпадак сіл, нейкая дэпрэсія. Гэта можа быць звязана з чыста фізіялагічнымі працэсамі. Таму што пасля зімы рэзервы арганізма знясільваюцца, недахват вітамінаў выклікае недахват жыццёвай энергіі. Таму такая стомленасць, таму прыгнятае неабходнасць нешта рабіць.

**— Так, але чаму гэтая вясна, як ніколі чаканая, так цяжка адбіваецца на людзях?**

— Цяжкі стан могуць дапоўніць і іншыя прычыны, у залежнасці ад тыпу асобы (моцны і слабы). Для людзей пачуццёвых гэта, напрыклад, нейкія эмацыянальныя напружанні. У такіх выпадках трэба проста спыніцца і пастарацца вызваліцца з палону эмоцый, падумаць, што ў вашым жыцці можа выклікаць непажаданы стан.

**— А як жа праца? Для многіх яна — толькі абавязак.**

— Так, на працы людзі часта вымушаны рабіць тое, чаго не хочуць. І тут нікуды не падзенешся. Трэба паспрабаваць глядзець на яе па-іншаму. Як на выпрабаванне, якое неабходна вытрымаць. Тым больш што зараз людзі часта ўвогуле застаюцца без працы, а гэта куды горш, больш крыўдна. Пастарайцеся заключыць з сабой пакт аб тым, што вашы эмоцыі ні ў якай меры не павінны ўплываць на працу.

**— Зараз вельмі многім дрэнна. І не тое што людзі не імкнуцца шукаць для сябе нейкага выйсця, яны яго проста не бачаць.**

— Гэта можа быць звязана з тым, што мы жывём ва ўмовах пастаяннага стрэсу. Нестабільная сітуацыя ў грамадстве ўплывае на псіхіку. Таму страх перад будучыняй, якая ўсім вельмі туманна ўяўляецца, выбівае з каляіны. Няўпэўненасць у кіраўніцтве, яго дзейнасць «навобмацак» перадаюцца народу. Зараз амаль не засталося людзей зусім апалітычных. Кожны пазірае на тое, што адбываецца, і робіць свае высновы. Але страты, якія ўвесь час наносяцца нашай псіхіцы, кампенсаваць вельмі складана.

**— Усё ж такі трэба з нечым ісці далей.**

— Паспрабуйце сябе палюбіць — гэта надасць упэўненасць. І перад тым як выйсці на вуліцу, абавязкова паглядзіцеся ў люстэрка. Усміхніцеся сабе. І іншыя ўсміхнуцца вам.

**Тэлефанавала Ларыса ЦІМОШЫК**

На ўсякі выпадак занатуйце тэлефон службы даверу ў Мінску: **46-11-11.**

# Смехатэрапія

*Мікалай ХРАМЦОЎ*

## Ах, мужчыны!

Жанчыны, гэта такі цуд!

І нездарма мужчыны бегаюць за імі, асабліва за некаторымі, як за якім-небудзь дэфіцытам. Уздыхаюць, сэрца заваёўваюць і гэтак далей. І робіцца гэта прыблізна так.

Адны заваёўваюць жанчын знешнім выглядам, шыльдай, калі можна так сказаць. Высокі, дагледжаны. Сківіцы квадратныя, фігура трохвугольная, асновай уверх. Пінжак — пяцьдзесят восем, туфлі — сорак шэсць, а штаны — сярэдняе арыфметычнае. Апалон.

Другія заваёўваюць жанчын розумам. Розныя там тары-бары, разумныя словы. Інфляцыя, эмансіпацыя, канфіскацыя. Нагаворыць ёй усяго такога. Сакрат.

Трэція бяруць нахабствам. Прыйшоў, убачыў, перамог і пайшоў. Юлій Цэзар.

Чацвёртыя — інтэлігентнасцю. Пенснэ ззяе, пальчык адтапырыць. Міс, мадам, мон шэр, ай лав ю. Мазгі запудрыць, заканіфоліць. І ўсё. І чао, бамбіна.

Пятыя пакараюць сціпласцю. Пастаяў, памаўчаў, паўздыхаў. Сціпла ўзяў, сціпла паклаў на месца і сціпла пайшоў. Ціхоня.

Шостыя бяруць жанчын хітрасцю. Заходзяць быццам бы не з таго канца, але заўсёды прыходзяць у патрэбнае месца.

Сёмыя, восьмыя, дзевятыя... і кожны бярэ, і кожны па-свойму.

І толькі самыя наіўныя бяруць жанчыну за руку і вядуць яе ў ЗАГС. Але вось, аказваецца, якраз наіўных мужчын у нас пераважная большасць... вось у чым справа.

*Андрэй КНЫШАЎ*

## Дэмасфен

— Уіа уывіхі, акванаў!

Дэмасфен стаяў на беразе мора і крычаў некуды ўдалеч, размахваючы рукамі, быццам пацярпеўшы бедства і выкінуты на востраў мараплавец, які бачыць, як міма праплывае карабель.

— Што-што? — перапытаў я ў яго.

— Уйя, вывіхі ад ракаў! — паўтарыў ён, нечым скрыгочучы ў роце.

— Не зразумеў.

Дэмасфен выплюнуў з рота ў жменю каменьчыкі, выцер насовачкай рот і, паправіўшы гальштук, паўтарыў зразумела:

— Я — вялікі прамоўца.

— Дапусцім. А што ты робіш тут? Корміш рыб сваімі прамовамі?

— Ніякіх рыб я не кармлю, — пакрыўдзіўся Дэмасфен. — Проста я трэнірую дыкцыю, артыкуляцыю і жэстыкуляцыю. Для гэтага я набіраю ў рот камяні і стараюся перакрычаць шум мора.

— Э, браток, ніякі ты, да д'ябла, не прамоўца. Вось калі б наадварот.

— А гэта як? — пацікавіўся Дэмасфен.

— Ты паспрабуй набраць вады ў рот і гаварыць, калі перад табой адны камяні.

## УСМЕШКА МАСТАКА







Малюнкі Леаніда РАЗЛАДАВА.



— Здаецца, я незнарок набраў нумар цырульні.

Малюнак М. СЯЎЛЮКА.

## Конкурс анекдотаў

*Муж, пасварыўшыся з жонкай, са злосцю закрычаў:*

*— Хто ў доме гаспадар: ты ці я?!*

*— Я, а што? — спакойна адказала жонка.*

*— Нічога, я проста так спытаў, ціха прамармытаў муж.*

* * *

***Гледзячы на распараную, расчырванелую жонку, якая выйшла з кухні, дзе яна гатавала абед, муж спагадліва спытаў у яе:***

***— Скажы, а ты б хацела быць мужчынам?***

***Жонка крыху падумала:***

***— Не, напэўна. А ты?***

* * *

*Тэлефонны званок.*

*— Гэта 44-44-44?*

*— Так.*

*— Набярыце, калі ласка, 03. У мяне палец у тэлефонным дыску зашчыміўся.*

* * *

***Зімовая рыбалка. Мужык сядзіць каля лункі без шапкі. Другі яго пытаецца:***

***— Ты чаму без шапкі на такім марозе?***

***— Ды ўчора сто грамаў прапаноўвалі, а я не пачуў...***

* * *

*Я так шмат прачытаў аб шкодзе курэння і алкаголя, што вырашыў кінуць...*

*— Што: піць ці курыць?*

*— Чытаць.*

* * *

***Псіхіятр:***

***— Дык вы кажаце, што плаціце падаткі з задавальненнем? І калі гэта ў вас пачалося?***

* * *

*Мурашка пасля вялікай п'янкі прачынаецца пад танкам:*

*— І чаго толькі па п'яне да хаты не прыцягнеш?*

* * *

***Таварыш капітан, вы на фронце ратавалі мне жыццё. Буду вам удзячны да канца сваіх дзён.***

***— Нешта я не памятаю...***

***— Ну як жа? Вы беглі, а я за вамі!***

**Анекдоты даслалі В. БЕЛЯКОВА са Столінскага раёна і Э. ВІРБУЛЬ з Пастаў.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**27 лютага 1468** выдадзены Судзебнік (Статут Казіміра) — першы кодэкс крымінальнага і працэсуальнага права Вялікага княства Літоўскага. Напісаны на беларускай мове. Ён вызначаў адзіныя віды пакаранняў за злачынствы супраць феадальнай уласнасці, змяншаў пералік плацяжоў на карысць суддзяў, павышаў пакаранні за дапамогу пры ўцёках і г. д. Судзебнік з'яўляецца помнікам старажытнай беларускай мовы.

**У гэты дзень у 1612 годзе** пачала актыўна працаваць Любчанская друкарня. Выпусціла больш за 80 выданняў на польскай і лацінскай мовах, галоўным чынам свецкага зместу: антычныя і гістарычныя творы, практычныя дапаможнікі па медыцыне, ветэрынарыі, літаратурныя творы. Сярод іх «Генеалогія або кароткае апісанне вялікіх літоўскіх князёў» М. Стрыйскоўскага, «Гісторыя іудзейскай вайны» І. Флавія.

**27 лютага 1768 года** створана так званая Барская (ад г. Бар, што на Падоліі ) канфедэрацыя — узброены саюз шляхты, клерыкалаў, кіруючых колаў Рэчы Паспалітай для барацьбы супраць уплыву на каралеўскі ўрад, за захаванне шляхецкіх вольнасцей. У верасні 1772 года войскі канфедэратаў пад камандаваннем М. Агінскага былі разбіты Суворавым каля вёскі Сталавічы недалёка ад Баранавіч.

### Цікава

***Размаўляючы слон па імені Батыр жыве ў заапарку горада Караганды. «Размаўляць» ён пачаў у 13-гадовым узросце.***

Загадчыца секцыі Алена Белавусава ў 1983 годзе першая пачула ад слана: «Батыр піць». Каб вымавіць слова, слон закладвае хобат у рот, сплюшчвае яго — атрымліваецца гук. Ён навучыўся гаварыць часта паўтараемыя яму словы і фразы: «Батыр маладзец», «Батыр харошы». Можа вам прадставіцца: «Я — Батыр». Акрамя таго, слон умее пераймаць брэх сабак, услых лічыць да трох, а калі ён чымсьці нездаволены, то гудзіць: «Ой-ой-ой». Голас чалавека Батыр імітуе даволі дакладна. Адчуванне такое, што гук ідзе з пустога сасуда.

### Неверагоднае — загадкавае...

***«Хачу падзяліцца з вамі сваёй незвычайнай гісторыяй, — піша Галіна Зотава з г. Асцёр. — Многа гадоў у нашай сям'і жыў сабака Джым. Схадзіць на паляванне яму за яго дванаццаць гадоў так і не ўдалося, затое варон у парку ён аббрэхваў выдатна...***

У старасці Джым набыў дзіўную і страшную здольнасць — прадказваць страты. Першы раз мы заўважылі гэта ў сувязі са смерцю маці майго мужа. Роўна за тыдзень да яе смерці сабака быццам бы захварэў. Гадзінамі ён ляжаў на падсцілцы, нічога не еў, гуляць не прасіўся. Час ад часу ён падыходзіў да мужа, клаў яму галаву на калені і вільготнымі вачамі сумна глядзеў на яго, уздыхаў, лізаў рукі. Мы вазілі Джыма да ветурача, але ён нічога не знайшоў.

У адну з начэй сабака раптам завыў. Мы ўскочылі, кінуліся да яго, а ён стаіць каля акна ў гасцінай і вые. А раніцай мы атрымалі тэлеграму з Кемерава. Пасля гэтага выпадку мы сталі ўважліва прыслухоўвацца да Джыма, адчуваючы затоены страх. Сабака, між тым, быў вясёлы і гарэзлівы. Прыблізна праз год, гэта было ў нядзелю, ён зноў раптам завыў. Мы са страхам чакалі якога-небудзь паведамлення. У гэты дзень у тым жа Кемераве ў аўтамабільнай аварыі загінуў мой пляменнік.

А пасля такім жа чынам сабака прадказаў смерць свёкра і маёй стрыечнай сястры. І ва ўсіх выпадках за тыдзень да бяды ён пачынаў сумаваць, а ў момант смерці гучна выў, прычым на працягу тыдня ён спачуваў менавіта таму з нас, чый родны (мой ці мужаў) набліжаўся да канца свайго шляху.

Адкуль ён ведаў гэта?..

### Што ў імені маім...

У імёнах народжаных пад канкрэтным і практычным знакам **Дзевы** адчуваецца стрыманасць і сціпласць, а таксама дакладнасць. У іх спалучаецца халодны ідэалізм і жыццёвы разлік. Вось якія імёны найлепш падыходзяць для **Дзеў-мужчын**: Барыс, Віктар, Вікенцій, Герман, Генадзь, Генрых, Глеб, Дзмітрый, Дзяніс, Інакенцій, Кім, Канстанцін, Мікіта, Расціслаў, Рыгор, Сяргей, Сцяпан, Ціхан, Усевалад, Станіслаў, Эрнест; **для жанчын**: Анастасія, Вікторыя, Дзіна, Зінаіда, Зоя, Інга, Ірына, Інеса, Крысціна, Ксенія, Лідзія, Надзея, Рэгіна, Стэла, Станіслава, Таццяна, Ціна, Эдзіта.

### Анекдот

*— Сведка, вы сцвярджаеце, што бачылі, як абвінямемы выстраліў у ахвяру. Як далёка вы знаходзіліся ад месца нападу?*

*— Пры першым выстрале ці пры трэцім?*

*— Якая розніца?*

*— Вельмі вялікая... з паўкіламетра.*

БЫВАЕ Ж ТАКОЕ!..

## Бойка вожыка з мутантам-пацуком

Забруджванне навакольнага асяроддзя рознымі шкоднымі рэчывамі, асабліва радыеактыўнымі пасля чарнобыльскай катастрофы, прывяло да з'яўлення розных мутантаў.

Нядаўна мне асабіста давялося пабачыць такую істоту, мала таго — стаць сведкам бойкі з ёю вожыка.

На маёй радзіме, у Смілавічах, пасля смерці маці, ужо некалькі гадоў у бацькоўскім доме мы жывём толькі ўлетку, а зімой бываем раз-пораз у выхадныя дні. Таму грызунам тут поўная прастора, развялося іх столькі, што бегаюць ледзь не па галаве. Каб неяк змагацца з імі, прыйшлося ў час водпуску прыручыць двух прыблудных катоў. І вось аднойчы ўсчаліся нейкія незразумелыя важданіна, піск, мяўканне. Адзін з катоў скокнуў да мяне на канапу, і я адчуў, як ён дрыжыць.

— Відаць, не падзялілі тэрыторыю, і большы пакусаў меншага, — падумалася мне.

Ах, каб на вас ліха! Пад мурлыканне я заснуў, але зноў прачнуўся ад грукату, піску і мяўкання. Падхапіўся, запаліў святло і на падлозе ўбачыў кроплі крыві. Хто мог напасці ў хаце на ката? Сабакі ў мяне няма. Не інакш, як пацук.

— Што рабіць? Як яго знішчыць? — з гэтым думкамі вечарам з унукам Сашкам вярнуўся дадому ад знаёмага А. Халадзінскага пасля шахматных баталій. Але, як кажуць, на лаўца і звер бяжыць.

— Вожык! — ускрыкнуў я, заўважыўшы на дарозе шэры клубок.

Прынёс я ў куртцы вожыка з надзеяй, што і ўнуку будзе радасць-уцеха, да таго ж гэты звярок паганяе мышэй. Аднак не толькі ў першую ноч, а і ў наступную ён тупаў, пыхкаў, шумеў і перашкаджаў спаць. Давялося неўтаймоўнага госця вынесці ў другую палавіну хаты і зачыніць дзверы.

А на досвітку, паверыце, пачаліся такія валтузня і піск, што я не вытрымаў, падняўся з ложка, паглядзеў за фіранку. Перад маімі вачыма разгортвалася сапраўдная баталія. Велізарны пацук цэліўся, каб ухапіць вожыка за пыску ці жывот, але той рэагаваў імгненна (ніколі не думаў, што вожык такі спрытны!). Ён выстаўляў насустрач зубам мутанта іголкі, скручваючыся ў мячык. А як толькі праціўнік спрабаваў уцякаць, вожык адважна кідаўся на яго. Вельмі пашкадаваў, што ў мяне няма кінакамеры. А Сашка, на жаль, моцна спаў і нічога гэтага не бачыў. Праціўнікі ж так увязаліся ў бойку, што і не заўважылі, што за імі назіраюць.

Храбра змагаўся вожык, але невядома, чым бы скончыўся паядынак, калі б не падаспела дапамога. Схапіўшы качаргу, я хацеў стукнуць пацука, але баяўся, каб не прамахнуцца. І ўсё ж прыціснуў начнога злодзея...

А што ж вожык? За ім цягнулася палоска крыві: відаць, ворагу ўдалося яго параніць. Выпусціў звярка ў агарод: няхай шукае сабе неабходныя лекавыя расліны. Вожык знік і не з'яўляўся. Не толькі ўнук, але і я вельмі шкадаваў: загінуў, напэўна, калі пацук пакусаў яго?..

Але праз некалькі дзён на двары зноў пачулася знаёмае пыхценне: вожык выказваў сваю нездаволенасць тым, што ў сподачку не было малака. У мяне адразу камень зваліўся з душы, а для Сашкі вяртанне калючага сябра было сапраўдным святам.

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ.**

г. Мінск.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 1004.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12